*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 38 (250)

20 верасня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ УКАЗ** аб адмене льгот некаторым катэгорыям грамадзян нашай краіны.

○ ***ПАВОДЛЕ ДАДЗЕНЫХ МІНСТАТА,*** *колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі на пачатак ліпеня складала 4 мільёны 800 тысяч чалавек, або каля 50 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва краіны.*

○ **АБНОЎЛЕНАЙ БІБЛІЙНАЙ КАМІСІЯЙ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ**, у якую ўвайшлі выкладчыкі Менскай духоўнай семінарыі, навукоўцы-мовазнаўцы, літаратары-перакладчыкі, прынята рашэнне па **актывізацыі працы па перакладу на беларускую мову** Святога Пісання.

○ *НА АДКРЫЦЦІ ЧАРГОВАЙ 18-Й СЕСІІ* ***ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 12 СКЛІКАННЯ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА М.ГРЫБ СКАЗАЎ:*** *«Я асабіста не падзяляю выказванні, якія гучаць у апошні час, аб палітычным аб'яднанні, у першую чаргу Беларусі з Расіяй і Украінай, у новы саюз на падставе федэрацыі, канфедэрацыі ці чаго-небудзь іншага. Для гэтага як мінімум патрэбна не толькі згода Расійскай Федэрацыі і Украіны, але і роўныя ўмовы для аб'яднання. Гэтага я пакуль што не знаходжу. Я мяркую, што вырашаць гэтае пытанне такім чынам немагчыма. Гэта шлях у нікуды. І не трэба ўводзіць людзей у зман, гаворачы ім аб аднаўленні Саюза ў хуткім часе». Ёсць жа разумныя людзі ў старым Вярхоўным Савеце!*

○ **ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК БЕЛАПАН**, агульная запазычанасць Беларусі за расійскі газ (па звестках на 31 жніўня 1995 года) складае 3 трыльёны 687 мільярдаў 536 мільёнаў беларускіх рублёў. Аплата спажыўцамі бягучых рахункаў у жніўні склала 59,1 працэнта. А наперадзе ж зіма!

○ ***ДВА ЗАВОДЫ НА ТЭРЫТОРЫІ УКРАІНЫ ПРЫЗНАНЫ ЎЛАСНАСЦЮ БЕЛАРУСІ*** *— гэта маёмасць Аўругскага і Тамашгародскага каменедрабільных заводаў.*

○ **ГАЗЕТА «СВАБОДА» НАДРУКАВАЛА КОПІЮ ДАКУМЕНТА**, па якой зафіксаваны вынікі галасавання за Пастанову аб ратыфікацыі Пагаднення аб стварэнні СНД. Апошнія два гады мы ўжо звыкліся, што супраць гэтай ратыфікацыі галасаваў толькі адзін чалавек і ім быў Аляксандр Лукашэнка. Па копіі дакумента бачна, што спадар Лукашэнка знаходзіцца ў спісе дэпутатаў, а іх 27, якія не бралі ўдзел у галасаванні. Супраць жа ратыфікацыі выступіў сапраўды толькі адзін чалавек, і ім па чутках у парламенцкіх колах быў дэпутат Ціхіня — былы сакратар ЦК КПБ. Ці верыць «Свабодзе»?

○ ***14 ВЕРАСНЯ У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ ЎСТАНОЎЧЫ СХОД НАВУКОВА-АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА».*** *Сярод заснавальнікаў гэтай грамадскай арганізацыі акадэмікі Радзім Гарэцкі і Станіслаў Астапчык, член-карэспандэнт Акадэміі Навук Іван Нікітчанка, эканамісты Сяргей Тарасаў, Антон Сланімскі і Павел Данейка, гісторыкі Анатоль Грыцкевіч і Павел Лойка, паэты Генадзь Бураўкін і Сяргей Законнікаў, журналісты Аляксандр Фядута і Іван Макаловіч, іншыя вядомыя навукоўцы і грамадскія дзеячы. Мэтай дзейнасці Цэнтра «Беларуская перспектыва» з'яўляецца аб'яднанне інтэлектуальнага і творчага патэнцыяла грамадзян для сумеснай грамадскай працы на карысць Рэспублікі Беларусь. Сустаршынямі арганізацыі абраны Уладзімір Анцулевіч, Валянцін Голубеў і Аляксандр Фядута.*

***ЦЯРПЛІВАСЦЬ ЛЮДЗЕЙ МАЕ МЕЖЫ***
*Стар. 2 і 7.*

***ЧЭХІ ПАДАЛІ ПРЫКЛАД САПРАЎДНАЙ СЛАВЯНСКАЙ ЕДНАСЦІ***
*Стар. 4.*

## Да ведама членаў Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

6 кастрычніка г.г. у Менску (Дом літаратара, Фрунзе, 5) адбудзецца IV з'езд ТБМ.

Запрашаем Вас прыняць удзел у рабоце з'езда. Пачатак а 10-й гадзіне раніцы. Рэгістрацыя з 9.00. Работу з'езда мяркуецца завяршыць у гэты ж дзень. Іншагародніх просім паведаміць аб магчымасці прыезду ў Менск, а таксама аб зацікаўленасці ў гасцініцы.

У сувязі з абмежаванасцю сродкаў пажадана, каб камандзіровачныя расходы ўзялі на сябе камандзіруючыя арганізацыі.

Тэлефоны для даведак: 33-25-11, 33-13-52.

**Сакратарыят ТБМ.**



Дырэктар МЗКЦ Волкаў Уладзімір Аляксандравіч

## Беларуская магутнасць: людзі і машыны





*Матэрыял чытайце на с. 3.*

# Як трэба рупіцца пра беларускую мову

***Салігорскія дзеці будуць ведаць роднае слова...***

Журналісцкая дарога завяла мяне нядаўна ў горад шахцёраў — Салігорск. Горад, дзе мае месца развіты прафсаюзны рух — тут гарнякі і настаўнікі ўмеюць адстойваць свае правы. Размаўляючы на гэтую тэму з кіраўніком Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў і работнікаў іншых галін вытворчасці Віктарам Бабаедам, я пацікавіўся становішчам беларускай мовы ў гарадскіх *салігорскіх школах.*

Віктар Сяргеевіч усміхнуўся: маўляў, мы тут асабліва нічога не сталі мяняць, бацькі не пайшлі, каб калечыць дзетак, якія ўжо некалькі гадоў як перайшлі на навучанне па-беларуску. Хаця і да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей паставіліся цывілізавана — ёсць, здаецца, школа, дзе навучанне вядзецца на расійскай мове.

«А лепей вам пра ўсё раскажа Ніна Ярмалінская — яна тут больш за ўсіх пра беларушчыну рупіцца, актывістка Народнага фронту, Каардынацыйнага камітэта па абароне роднай мовы — ёсць тут такая суполка. А працуе сама выхавацелькай у тутэйшым дзіцячым садку № 25. Гэта — непадалёк ад нашага офіса...»

Я тады здзівіўся, што лідэр аднаго з атрадаў рабочага класа краіны ведае тутэйшую прадстаўніцу нацыянальнай гуманітарнай інтэлігенцыі. Але, далей разважаў я тут, мусіць, нічога дзіўнага няма — усё ўзаемазвязана: Віктар Сяргеевіч змагаецца за тое, каб чалавек ва ўмовах «дзікага рынку» не згубіў здароўе фізічнае, а Ніна Адамаўна — за здароўе духоўнае. Гэта іх лучыць у адны шэрагі-шыхты будаўнікоў *Беларускай незалежнай нацыянальнай дзяржавы* (само сабой, — з высокай ступенню сацыяльнай абароненасці ды з высокай культурай народа).

З гэтымі думкамі я і завітаў у дзіцячы садзік № 25 да спадарыні Ярмалінскай. Як раз была *«ціхая гадзіна» — дзеці спалі.* Таму мы з Нінай Адамаўнай знайшлі пакойчык, што знаходзіўся падалей ад спальні яе падапечных, і пагаварылі пра тое, як жыве-маецца ў Салігорску роднае слова. У нас адбыўся вось такі дыялог.

**— Шаноўная Ніна Адамаўна, ці шмат сярэдніх школ налічваецца ў вашым горадзе і колькі з іх маюць статус рускамоўных?**

— У Салігорску ўсяго 12 сярэдніх школ, з іх толькі *адна перайшла на рускамоўны статус.* Праўда, ёсць яшчэ тры школы, якія пераходзілі на беларускую мову вывучэння прадметаў...

**— Гэта «раскладка» аб'ектыўна адлюстроўвае суадносіны нацыянальных дачыненняў у горадзе?**

— Аб'ектыўна. Справа ў тым, што наш малады горад закладваўся ў беларускай глыбінцы, яго пачыналі жыхары навакольных вёсак і невялічкіх гарадкоў. Ну, а прыезджых з іншых рэспублік былога СССР спецыялістаў горнай справы было малавата.... Так што тут да беларускай мовы стаўленне больш прыязнае, чым у жыхароў таго ж Гомеля ці Менска...

**— Тым не менш Вам і Вашым сябрам па грамадскіх інтарэсах давялося, як мне расказвалі, прыкласці пэўныя намаганні, каб не дапусціць гвалту над нашай мовай у школах...**

— Слова «гвалт» я тут не ўжывала б. Проста з нашага боку былі зроблены захады да перасцярогі ў гэтым сэнсе. За жнівень мы разам з яшчэ адной актывісткай нацыянальна-дэмакратычнага руху Ірынай Паўловіч абышлі ўсе школы, пагутарылі з усімі дырэктарамі, растлумачылі ўсім, *што беларускую мову ніхто не* адмяняў, параілі не клапаціць бацькоў вучняў па сваёй ініцыятыве з нагоды магчымай змены статуса навучальных устаноў. Да нашых словаў амаль усе кіраўнікі школ прыслухаліся і ніякіх *«рэвалюцый» не ўсчынялі* ды бацькоў на такое не падбівалі.

**— Вы, спадарыня Ніна, сказалі — «амаль». Мусіць, усё ж нехта з Вамі і спадарыняй Ірынай не пагадзіўся?**

— Так, *гэта здарылася ў СШ № 9.* Там усё ж школа перайшла на выкладанне прадметаў па-расійску. Ну, што ж, яшчэ раз падкрэсліваю: у Салігорску жывуць, акрамя беларусаў, і рускія, і татары, і ўкраінцы (хаця ўкраінцы больш ахвотна аддаюць сваіх дзетак у беларускія школы), і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей... Праўда, у трэцяй школе адбылося тое, што адбываецца ў вас у Менску. Дырэктар зрабіў *спробу менавіта па сваёй ініцыятыве змяніць* статус навучальнай установы. Яго «наверсе» паправілі, паколькі адсутнічаў у гэтым напрамку «знізу» бацькоўскі рух. Хаця ўсё ж адзін рускамоўны клас дырэктару ўдалося набраць...

**— Вы абмяжоўваліся ў вашай растлумачальнай працы толькі гутаркамі з дырэктарамі школ?**

— Не толькі. Я, напрыклад, па запрашэнні асобных настаўнікаў была запрошана ў школы, каб правесці адкрытыя ўрокі па беларускай мове. 1 верасня, напрыклад, такі ўрок правяла ў СШ № 8. Расказала пра пакручастую гісторыю Беларускай дзяржавы, пра яе слаўных сыноў і дачок — Францішка Скарыну і Сымона Буднага, Ефрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага. Чытала дзецям вершы Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча (я вельмі люблю творчасць гэтых паэтаў), расказвала аб кнігах Васіля Быкава. А завяршыла ўрок чытаннем верша маёй сяброўкі, вядомай паэткі Валянціны Аколавай — «Мова», заклікам берагчы роднае слова.

**— А як справы са становішчам роднага слова ў дзіцячых дашкольных установах?..**

— *Пакуль што сітуацыю ўтрымліваем у сваіх* руках. Вядзём растлумачальную работу з бацькамі і кіраўнікамі садкоў...

**— Гарадскія ўлады вашу заклапочанасць разумеюць?**

— Так. Іх пазіцыя тут нармальная і моўнае раўнапраўе для іх менавіта раўнапраўе, а не гвалт над беларускай мовай. Яны разумеюць, што лягчэй разбурыць створанае, чым потым усё гэта аднаўляць, уздымаць з руінаў...

**— Вялікі дзякуй, Ніна Адамаўна, за Вашу руплівасць на карысць беларускай мовы і беларускага народа. Мне здаецца, вопыт Вашай працы ў гэтым сэнсе неацэнны, ён, як некалі казалі, варты шырокага пераймання...**

**Гутарыў Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

 



*Актуальна!*

# Усё павінны вырашаць бацькі...

*З начальнікам упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Фяськовым Мікалаем Сцяпанавічам гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» Людміла Шніп.*

**— Мікалай Сцяпанавіч, пачаўся новы навучальны год. Колькі дзяцей будзе ў гэтым годзе навучацца на беларускай мове, колькі — на рускай?**

— Дакладных дадзеных у нас яшчэ няма. Нашы інспектары ў ліпені ездзілі па рэспубліцы і сабралі такую інфармацыю: прыкладна каля 70% вучняў пачатковых класаў, згодна жадання іх бацькоў, будзе навучацца на рускай мове. Значная колькасць заяў бацькоў першакласнікаў, асабліва ў гарадах, таксама аб рускамоўным навучанні. У сельскай мясцовасці праблема так востра не стаіць — там у асноўным беларускамоўная школа. Хаця трэба сказаць, што і па горадзе шмат тэлефануе нам абураных бацькоў, якія жадаюць захаваць для сваіх дзяцей беларускамоўнае навучанне. Міністэрства адукацыі падзяляе іх пазіцыю. Па-першае, трэба захаваць тую структуру, якая склалася, бо для вучняў, якія два, тры, чатыры гады навучаліся на беларускай мове, пераход на рускую мову навучання будзе звязаны з цяжкасцямі. Але права выбару мовы навучання — за бацькамі. Як мы падрыхтаваліся да гэтага? Улічваючы, што значная колькасць бацькоў пажадала перавесці сваіх дзяцей на рускую мову навучання, у трэцім квартале бягучага года мы перанеслі выпуск асобных рускамоўных падручнікаў для пачатковых класаў з чацвёртага квартала ў трэці. Гэтыя дапаможнікі рыхтаваліся на 1996-97 навучальны год і павінны былі пачаць выкарыстоўвацца толькі ў будучым годзе. Тыя дзеці, якія зараз прыйдуць у рускамоўныя класы, атрымаюць новыя падручнікі.

**— Як Вы ставіцеся да таго факта, што колькасць ужо існуючых беларускамоўных класаў значна паменшыцца?**

— Усё павінны вырашаць бацькі. Толькі бацькі разам з настаўнікамі вырашаюць, на якой мове будуць вучыцца іх дзеці.

**— Але ці заўсёды правамоцным з'яўляецца волевыяўленне бацькоў наконт выбару мовы навучання для іх дзяцей, калі ўлічыць, што перад пачаткам навучальнага года не было дастаткова шырокага абмеркавання «за» і «супраць» тае ці іншае мовы навучання, а ў перыядычным друку з'яўляюцца звесткі пра націск на бацькоў з боку школьнай адміністрацыі па вырашэнні пытання на карысць рускай мовы навучання?**

— Я не лічу, што не было дастаткова шырокага абмеркавання. Я думаю, што пасля таго, як быў прыняты Закон аб мовах, гэта абмеркаванне ішло ўвесь час. Асабліва калі было аб'яўлена аб правядзенні рэферэндуму, няхай неарганізавана, аднак абмеркаванне гэта ішло. Бацькі правамоцныя вырашаць, на якой мове павінны вучыцца іх дзеці. Што датычыць фактаў націскаў на бацькоў з боку мясцовай школьнай адміністрацыі, гэта недапушчальна. І ў тых выпадках, калі да нас даходзяць звесткі, што бацькоў прымушаюць, каб яны аддавалі дзяцей ці на рускамоўнае, ці на беларускамоўнае навучанне — мы прымаем адпаведныя меры. Падкрэсліваю, што мы не робім розніцы, на карысць якой мовы робіцца прымус.

**— Напэўна, да Вас звяртаецца нямала бацькоў у тых сітуацыях, калі толькі невялікі працэнт іх у школе хоча навучаць дзяцей на беларускай мове, і адміністрацыя прапаноўвае ім пераводзіць сваіх дзяцей у іншыя школы, бо дзеля гэтай невялікай (адносна) колькасці дзяцей ім не хочацца ствараць беларускамоўныя класы. А між тым школа з беларускамоўным навучаннем можа быць у нязручным для гэтых бацькоў месцы; школа, якую іх дзіця вымушана пакінуць, можа быць спецыялізаванай, і аналагічнага навучання нідзе больш дзіця не атрымае...**

— На самай справе, так адбываецца. Мы ведалі, што не можа быць, каб ва ўсіх школах адбыўся прапарцыянальны падзел вучняў на тых, хто будзе навучацца на рускай і хто будзе навучацца на беларускай мовах, каб можна было лёгка сфарміраваць класы. Гэта праблема будзе існаваць у гэтым годзе і ў наступным, напэўна... Безумоўна, у асобных школах будуць невялікія групы дзяцей, з якіх нельга ўтварыць класы. Складаней гэта пытанне вырашыць у сельскай мясцовасці, дзе школа — адна. І сапраўды вырашэнне праблемы ў пераходзе ў іншую школу. Гэтай праблемай павінны займацца раённыя аддзелы народнай адукацыі. Мы разумеем, што, задавальняючы правы бацькоў у адным, парушаем так ці іначай іх правы ў іншым — напрыклад, праве навучаць дзіця ў школе іх мікрараёна.

**— Пракаменціруйце праблему з падручнікамі.**

— За выключэннем асобных падручнікаў — па гісторыі і геаграфіі, — навучанне будзе весціся па існуючых дапаможніках. Падручнікі па гісторыі і геаграфіі, якія падлягалі апошнім часам крытыцы, будуць дапрацоўвацца і выйдуць новымі выданнямі ў сярэдзіне навучальнага года. Што датычыць іншых праблем з падручнікамі, не ўсё атрымалася ў нас з выдавецтвам «Просвещение» ў Маскве, адкуль павінны былі паступіць падручнікі па замежнай мове. Гэта выдавецтва не змагло выканаць наш заказ з-за сваіх унутраных праблем. Тым не менш, школы Беларусі на гэты навучальны год падручнікамі забяспечаныя.

**— А хто будзе дапрацоўваць падручнікі па гісторыі?**

— У асноўным тыя ж, хто ствараў першае выданне. Тут праблема больш за ўсё фінансавая і матэрыяльная. Аўтары падручнікаў атрымліваюць ганарары, якія нават не пакрываюць выдаткаў, на перадрук матэрыялаў машыністкай. Вы думаеце, што раней міністэрства не магло б аб'явіць конкурс на напісанне падручнікаў? Не маглі знайсці сродкаў. Вось на сустрэчы, якая адбылася нядаўна ў прэзідэнта з нашым міністрам і прадстаўнікамі грамадскасці, прэзідэнт паабяцаў, што гэтаму пытанню будзе ўдзелена значная ўвага. Тыя, хто працуюць над падручнікамі, атрымаюць творчыя адпачынкі, значна павысіцца ганарар. Гэта дасць магчымасць рыхтаваць нават некалькі выданняў падручнікаў, каб пасля можна было абмеркаваць іх і вызначыць найлепшы для школы.

**— Як Вы ставіцеся да пашырэння платнага навучання? Колькі на Беларусі прыватных школ, гімназій, ліцэяў? Наколькі такое навучанне больш якаснае, чым традыцыйнае, «дзяржаўнае»? Якія перспектывы мае платнае навучанне ў нашай рэспубліцы?**

— Я думаю, што і зараз, і ў будучым платнае навучанне не будзе займаць значнае месца ў сістэме адукацыі. Дзяржаўная школа ёсць і будзе асноўным месцам, дзе юнакі і дзяўчаты атрымліваюць сярэднюю адукацыю. Не гаворачы пра вышэйшую школу — там больш за 20 навучальных устаноў — недзяржаўных, прыватных сярэдніх навучальных устаноў у нас зарэгістравана 7. Наколькі навучанне там якасней? Я не магу сказаць, што яны даюць падрыхтоўку лепшую, чым дзяржаўныя. Можа быць, справа ў тым, што такая форма навучальных устаноў толькі з'яўляецца. Канешне, магчымасць забеспячэння вучняў сродкамі навучання, харчаваннем у гэтых школах значна вышэйшая. Безумоўна, гэта можа станоўча паўплываць на якасць навучання. Аднак я думаю, што добрыя традыцыі сфарміраваліся ў нашай дзяржаўнай сістэме сярэдняй адукацыі. Нашы дзеці ўдзельнічалі ў міжнародных алімпіядах па фізіцы, матэматыцы, інфарматыцы, экалогіі, геалогіі з выдатнымі вынікамі. Дзеці прывезлі залатыя, сярэбраныя, бронзавыя медалі. Гэта сведчыць хаця б у некаторай ступені пра добрую якасць нашага навучання. Акрамя таго, Канстытуцыя (артыкул 49), Закон аб адукацыі (артыкул 16) гарантуе бясплатнае атрыманне сярэдняй адукацыі, даступнасць яе і бясплатнасць.

**— Нейкі час навучанне дзяцей у нашых школах пачыналі з 6-гадовага ўзросту. Пасля загаварылі пра нерацыянальнасць такога падыходу — шасцігодкі стамляюцца, не вытрымліваюць вучэбнай нагрузкі. З якога ўзросту прымаюць школы дзяцей сёння.**

— Школа мае права браць вучняў з шасці ці сямі гадоў. Я думаю, гэта тое рашэнне, якое павінна задаволіць усіх. З якога ўзросту ісці дзіцяці ў школу — вырашаюць бацькі з улікам фізіялагічных асаблівасцяў дзіцяці і меркавання ўрача. У гэтым годзе па папярэдніх падліках 50% усіх першакласнікаў — шасцігодкі.

**— На заканчэнне — якія ж перспектывы мае ў нашай краіне нацыянальная школа?**

— Пазіцыя міністэрства ў тым, каб ствараць спрыяльныя ўмовы для адраджэння беларускай мовы, існуе праграма (зараз у яе ўносяцца карэктывы) аб абароне беларускай мовы. Міністэрства занепакоена тым, што прыходзяць звесткі пра тое, што дзесьці адміністрацыя школ гвалтам прымушае бацькоў пераводзіць дзяцей на рускую мову навучання. Мы лічым, што ўсё павінны вырашаць бацькі, і праблем з беларускамоўным навучаннем быць не павінна.

**— Дзякую за гутарку.**

РАЗМЕРКАВАННЕ ДЗЕННЫХ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ ШКОЛ УСІХ ТЫПАЎ ПА МОВАХ НАВУЧАННЯ

ГАРАДСКАЯ І СЕЛЬСКАЯ МЯСЦОВАСЦЬ

| | Агульная колькасць школ | З іх школ | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | з рускай мовай навучання | % | з беларускай мовай навучання | % | з дзвюма мовамі навучання | % | з літоўскай мовай навучання | % |
| г.Мінск | 219 | 38 | 17.4 | | | 181 | 82.6 | | |
| Брэцкая | 800 | 44 | 5.5 | 517 | 64.6 | 239 | 29.9 | | |
| Віцебская | 813 | 43 | 5.3 | 545 | 67.0 | 225 | 27.7 | | |
| Гомельская | 767 | 35 | 4.6 | 456 | 59.5 | 276 | 36.0 | | |
| Гродзенская | 676 | 14 | 2.1 | 487 | 72.0 | 174 | 25.7 | 1 | 0.1 |
| Мінская | 944 | 14 | 1.5 | 720 | 76.3 | 210 | 22.2 | | |
| Магілёўская | 637 | 51 | 8.0 | 411 | 64.5 | 175 | 27.5 | | |
| Рэспубліканскія школы | 3 | | | 1 | 33.3 | 2 | 66.7 | | |
| Р А З А М | 4859 | 239 | 4.9 | 3137 | 64.6 | 1482 | 30.5 | 1 | |
| 1993/1994 навуч.год | 4924 | 257 | 5.2 | 3138 | 63.7 | 1529 | 31.1 | - | - |
| 1992/1993 навуч.год | 4953 | 397 | 8.0 | 3141 | 63.4 | 1415 | 28.6 | - | - |
| 1991/1992 навуч.год | 5067 | 911 | 18.0 | 3278 | 64.7 | 878 | 17.3 | - | - |

РАЗМЕРКАВАННЕ ДЗЕННЫХ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ ШКОЛ УСІХ ТЫПАЎ ПА МОВАХ НАВУЧАННЯ

ГАРАДСКАЯ МЯСЦОВАСЦЬ

| | Агульная колькасць школ | З іх школ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | з рускай мовай навучання | % | з беларускай мовай навучання | % | з дзвюма мовамі навучання | % |
| г.Мінск | 217 | 37 | 17.1 | | | 180 | 82.9 |
| Брэцкая | 154 | 27 | 17.5 | 2 | 1.3 | 125 | 81.2 |
| Віцебская | 169 | 31 | 18.3 | 2 | 1.2 | 136 | 80.5 |
| Гомельская | 194 | 28 | 14.4 | 16 | 8.2 | 150 | 77.3 |
| Гродзенская | 136 | 11 | 8.1 | 4 | 2.9 | 121 | 89.0 |
| Мінская | 161 | 13 | 8.1 | 3 | 1.9 | 145 | 90.1 |
| Магілёўская | 145 | 25 | 17.2 | 3 | 2.1 | 117 | 80.7 |
| Рэспубліканскія школы | 3 | | | 1 | 33.3 | 2 | 66.7 |
| Р А З А М | 1179 | 172 | 14.6 | 31 | 2.6 | 976 | 82.8 |
| 1993/1994 навуч.год | 1164 | 190 | 16.3 | 13 | 1.1 | 961 | 82.6 |
| 1992/1993 навуч.год | 1136 | 278 | 24.5 | 7 | 0.6 | 851 | 74.9 |
| 1991/1992 навуч.год | 1111 | 553 | 49.8 | 5 | 0.4 | 553 | 49.8 |

**Колькасць навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў на верасень 1995 г.**

| Вобласці | Залічана ў I кл. | у т.л. 6-гадовыя агульная колькасць | % | Скончыла IX кл. | Скончыла XI кл. |
|---|---|---|---|---|---|
| Брэсцкая | 24600 | 9500 | 38,5 | 21660 | 11642 |
| Віцебская | 21800 | 11554 | 53,0 | 15475 | 7900 |
| Гродзенская | 19069 | 17000 | 90,0 | 14398 | 6629 |
| Гомельская | 24704 | 12700 | 51,4 | 21073 | 10710 |
| Менская | 26700 | 12873 | 46,0 | 19000 | 10306 |
| Магілёўская | 22000 | 11000 | 50,0 | 14500 | 7400 |
| г.Менск | 25020 | 9367 | 33,3 | 20224 | 11234 |
| Усяго | 163893 | 83994 | 51,2 | 126330 | 65821 |
| У 1994/1995 навуч.годзе навучалася ў агульнаадук.шк. | 160134 | | | 124604 | 66758 |

*Прапануем чытачам «Нашага слова» для азнаямлення звесткі пра мову навучання ў школах Беларусі ў мінулым годзе — паколькі, як вынікае з гутаркі з начальнікам упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі М.С.Фяськовым, такіх дадзеных на гэты год няма і, як мяркуем, з'явяцца яны не хутка — бо канчатковы падзел школ на рускамоўныя і беларускамоўныя ў выніку распачатай «вайны» між бацькамі і школьнай адміністрацыяй, будзе доўжыцца адпаведна энтузіязму зацікаўленых бакоў. Думаецца, змешчаныя звесткі дапамогуць прасочваць сёлетнія змяненні працэнтных суадносінаў школ з рускай і беларускай мовай навучання ў параўнанні з мінулым годам. Змяшчаем з тою ж мэтай апошнія аператыўныя дадзеныя Міністэрства адукацыі і навукі аб колькасці вучняў у сёлетнім навучальным годзе.*

# ТБМ: ідзе падрыхтоўка да з'езда

Праз газету «Наша слова», а таксама лістом ад 28 чэрвеня г.г., паведамляючы аб маючым адбыцца 6 кастрычніка г.г. IV з'езда ТБМ, мы прасілі да верасня правесці справаздачна-выбарчыя канферэнцыі, на якіх падвесці вынікі работы па выкананні рашэнняў III з'езда ТБМ, абраць дэлегатаў IV з'езда, вызначыць праграму дзейнасці ў сучаснай моўнай сітуацыі, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусь пасля рэферэндуму. Пратаколы канферэнцый з кароткай інфармацыяй аб праведзенай рабоце за справаздачны перыяд, а таксама прапановы па ўдасканаленні дзейнасці ТБМ у сучасных умовах даслаць у Сакратарыят ТБМ не пазней 15 верасня г.г.

Аднак на сённяшні дзень мы не атрымалі адпаведнай інфармацыі ад большасці арганізацый. Таму пераканаўча просім у самы кароткі тэрмін даслаць згаданую вышэй інфармацыю, а таксама паведаміць аб часе прыбыцця ў Менск дэлегатаў з'езда, зацікаўленасці іх у гасцініцы. У крайнім выпадку можна паведаміць прозвішчы дэлегатаў па тэлефоне, пры пацвярджэнні гэтай інфармацыі пратаколамі па прыбыцці на з'езд. Пажадана, каб камандзіровачныя расходы дэлегатаў з'езда ўзялі на сябе камандзіруючыя арганізацыі (Рады ТБМ, установы адукацыі і культуры і інш.).

Улічваючы крайне абмежаваныя магчымасці, Сакратарыят ТБМ зможа ўзяць на сябе камандзіровачныя расходы ў выключных выпадках.

**Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# Цярплівасць людзей мае межы...

Забастоўка работнікаў Менскага метрапалітэна 17—20 жніўня г.г. набыла значны розгалас як у нашай краіне, так і за яе межамі. Афіцыйныя ўлады праз сродкі масавай інфармацыі асудзілі дзеянні забастоўшчыкаў, а Менскі гарадскі суд прызначыў лідэрам Свабоднага прафсаюза Г.Быкаву, У.Макарчуку і М.Канаху ў якасці меры пакарання 15 і 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Акрамя таго, было звольнена некалькі дзесяткаў чалавек, якім прапанавана адбыць двухмесячны тэрмін папраўчых работ у ... калгасе(!).

Увесь гэты час дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі вялася «апрацоўка» насельніцтва. Забастоўшчыкі паўставалі ў іх асвятленні як людзі, якія не лічацца з інтарэсамі грамадства, а ідуць на гэту акцыю дзеля грошай, у той час як іх зарплаты нават большыя за прэзідэнцкую. Сапраўдныя ж прычыны забастоўкі замоўчваліся, хоць і высветлілася, што яна, як пісала газета «Звязда», «мае зусім не грашовае адценне. Уся справа ў начальніку метро У.Набежку, які не выконваў патрабаванні калектыўнага дагавора і займаўся самаўпраўствам...» (№№ 148—149).

Фініш гэтай падзеі ўсім вядомы: парадкі ў метрапалітэне засталіся старымі, а забастоўшчыкі панеслі пакаранне. У той час як у адным з артыкулаў Канстытуцыі замацавана «права на забастоўку», а таксама «права на абарону сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў, уключаючы права на аб'яднанне ў прафесійныя саюзы» (Артыкул 41, стар. 9).

Цікава, што справа атрымала нечакана палітычную афарбоўку. Недарэмна ж быў затрыманы быццам бы ў якасці падбухторшчыка да забастоўкі нават дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад апазіцыі Сяргей Антончык, аўтар вядомага даклада аб карупцыі ў шэрагах прэзідэнцкай «раці».

Пачаўся «накат» на БНФ. У сваіх выступленнях па тэлебачанні (20 і 22 жніўня) прэзідэнт А.Лукашэнка «падрыўную» дзейнасць БНФ раз-

*(Заканчэнне на с.7.)*

 

*В.ЗАХАРАЎ,*
*інжынер-канструктар*

# Беларуская магутнасць: людзі і машыны

Магчыма, некага з чытачоў «Нашага слова» здзівіць, што ў гэтым артыкуле будзе ісці гаворка не пра асаблівасці беларускай мовы, а пра нашы разумова (ці інтэлектуальна, калі хочацца замежнага слоўца) - тэхнічныя магчымасці (патэнцыял). Але ж гэта ўсё так узаемазвязана! Не было б беларусаў як нацыянальнай адметнасці, народа, аказалася б і астатняе нейкім іншым. Дарэчы, нас і цяпер яшчэ ў некаторых краінах не надта ўспрымаюць як арганічны суб'ект сусветнага супольніцтва народаў і дзяржаў — як быццам мы нешта недаспелае, аморфнае, народ-«падлетак», так бы мовіць, які добра хоць самастойна бульбу навучыўся вырошчваць. Нават у дружалюбнай Расіі асобныя палітыкі называюць Беларусь «агурковай» рэспублікай (як у Арфрыцы ці Лацінскай Амерыцы ёсць «бананавыя»). У некаторых краінах нас адносілі (і многія працягваюць адносіць) зноў жа да не зусім цывілізаванага «трэцяга свету». А нехта і ў нас гэтак думае пра сябе. То хто ж тады будзе з рэспектабельнай публікі на поўным сур'ёзе ставіцца і да беларускай культуры, мовы? У лепшым ужо выпадку — як да цікавай экзотыкі. Тут, у гэтым накірунку шмат пастаралася пэўная мэтанакіраваная адпаведным чынам прапаганда. Вось чаму, на мой погляд, зараз адраджэнне поўнай гісторыі і культуры павінны адбывацца адначасова з рашучым павышэннем эфектыўнасці яе эканомікі і тэхнічнага ўзроўню прамысловай прадукцыі, — тут залог умацавання і дзяржаўнасці, і міжнароднага прэстыжу рэспублікі. Але, паміж тым, нам трэба нарэшце і самім больш ведаць пра свае тэхнічныя і эканамічныя магчымасці, і міжнароднаму супольніцтву данесці ўсю праўду пра Беларусь. Нешта ў нас у гэтым накірунку напрацавана, тым не менш адчуваецца пэўная аднабокасць, а то і раздробненасць, іначай не сталі б думаць пра сябе, што наша краіна — гэта ўсяго толькі нейкі «зборачны цэх», што мы поўнасцю ад некага залежым, а ад нас дык ніхто. Сыравіна? Заходняя Еўропа таксама практычна не мае сваёй сыравіны. Самая вялікая сучасная каштоўнасць — гэта навукова-тэхнічныя магчымасці. А ў Беларусі яны значныя. Так што ў часы СССР тут нездарма адзін за адным будаваліся самыя сучасныя прамысловыя прадпрыемствы. Пра некаторыя з іх чытачу вядома. Але ці многія, напрыклад, ведаюць, што сабой уяўляе МЗКЦ?

Паміж іншым яшчэ зусім нядаўна кіраўніцтва краіны не было і зацікаўленым у тым, каб нехта староннi пра наша прадпрыемства ведаў — бо яно належала Ваенна-прамысловаму комплексу. А паміж тым Менскі завод колавых цягачоў — гэта магутны мазгавы і вытворчы цэнтр. Калі ідзеш па тэрыторыі МЗКЦ, пазіраеш на вялізныя карпусы цэхаў, на гатовыя да адпраўкі магутныя і складаныя машыны, ахоплівае міжволі гонар за нашых людзей. Яны змаглі тут выпускаць першакласную ваенную тэхніку, але ж інжынерная думка яшчэ ў часы СССР пачала працаваць на патрэбы народнай гаспадаркі і вельмі някепска. Цяпер, ва ўмовах рынкавай эканомікі, гэта трэба, каб было вядома як мага шырэй. А справа ў тым, што, з аднаго боку, нашы асноўныя заказчыкі ў часы СССР — прадстаўнікі ваенных установ — таксама былі зацікаўленыя, каб базавыя мадэлі нашых машын выкарыстоўваліся і ў «мірнай» прамысловасці, таму што гэта давала багатую практыку для больш інтэнсіўнай праверкі баявой тэхнікі ў самых розных рэальных умовах эксплуатацыі, з другога боку — у нас было самае дасканалае абсталяванне і інжынерна-рабочыя кадры, каб задаволіць тэрміновыя патрэбы такой стратэгічнай галіны як нафта- і газаздабыча ў самых складаных прыродна-кліматычных умовах. У 70-я гады пачаўся перыяд актыўнага засваення Заходне-Сібірскага рэгіёна. Тады ж будаваўся і супергазаправод Бухара—Цэнтр. Па пясчана-барханнай мясцовасці Сярэдняй Азіі ніводзін ранейшы аўтамабіль не мог прайсці. А тут яшчэ страшэнная спёка. У Заходняй Сібіры наадварот — балоты і маразы. Трактары з-за малой хуткасці і грузападымальнасці, а верталёты з-за высокага кошту эксплуатацыі, якія выкарыстоўваліся раней, адпадалі. Вось тады спатрэбілася і наша унікальнае прадпрыемства — для «мірных» мэт.

А дарэчы ўсё пачалося для нас яшчэ ў жніўні 1954 года, калі на Менскім аўтазаводзе было створана спецыяльнае канструктарскае бюро па распрацоўцы прынцыпова новага тыпажу многавосевых аўтамабіляў для патрэб арміі. Ужо праз два гады з варот эксперыментальнага цэха выехаў незвычайны аўтамабіль — артылерыйскі цягач МАЗ-535. У гэтай машыне была праароблена сапраўдная навукова-тэхнічная рэвалюцыя айчыннага аўтамабілебудавання. Ініцыятарам і кіраўніком гэтых работ быў адзін з патрыярхаў нашага аўтамабілебудавання Б.Л.Шапашнік, які выхаваў цэлую плеяду таленавітых канструктараў. Навінка беларусаў адразу ж заваявала прызнанне ў заказчыкаў. Праз кароткі час спатрэбілася значнае павелічэнне колькасці новых машын. Вось чаму праз 5 гадоў з'явілася новае падраздзяленне ў структуры Менскага аўтазавода — вытворчасць спецыяльных калёсных цягачоў, якое і паклала пачатак Менскаму заводу колавых цягачоў, які вельмі хутка пачаў набіраць вытворчыя абароты. То быў час бурнага развіцця ракетабудаванне, у працэс якога самым актыўным чынам уключылася наша прадпрыемства. Пад ракетную ўстаноўку была створана канструкцыя і засвоена вытворчасць новага колавага шасі МАЗ-543, якое па праву можна назваць самай вялікай удачай калектыва.

Новыя тэхнічныя рашэнні, многія з якіх былі выкананы на ўзроўні вынаходніцтваў, запатрабавалі ад тэхнолагаў, майстроў, рабочых асаблівых творчых высілкаў, майстэрства, чым і забяспечылі высокую якасць вырабу. І хоць з таго часу ў нас з'явілася багата новых высакакласных напрацовак, але і да гэтай пары тая мадэль усё яшчэ карыстаецца вялікім попытам у заказчыкаў.

Калі ЗША выклікалі фурор ва ўсім свеце, стварыўшы грозную міжкантынентальную ракету «МХ» з касетнай ядзернай боегалоўкай і ў мэтах парытэту ў СССР разгарнулася праца над стварэннем зброі ў адказ, зноў атрымаў заказ МЗКЦ і яго майстры неўзабаве стварылі супер-шасі, падобных якому тэхнічны свет яшчэ не ведаў. Нельга не ўспомніць, з якім захапленнем і здзіўленнем знаёміліся з шасі МАЗ-7904 у атрадзе касманаўтаў на Байкануры. Генерал-лейтэнант Герман Цітоў літаральна «засыпаў» беларускіх канструктараў пытаннямі пра асаблівасці унікальнага гіганта.

Цяпер у вытворчасці новыя, яшчэ больш дасканалыя канструкцыі нашых машын, якія забяспечваюць высокую якасць і надзейнасць у эксплуатацыі. У гэтым сэнсе паказальная Міжнародная выстава ваеннай тэхнікі ў Абу-Дабі. Баявы комплекс берагавой абароны «Бераг», што базіруецца на колавых шасі МАЗ-543М, у практычных спаборніцтвах са сваімі канкурэнтамі з іншых вядучых краін свету прыкметна пераўзышоў іх па шмат якіх тэхнічных паказчыках, у тым ліку па манеўранасці і мабільнасці.

Вяртаючыся ж да аповяду пра «мірныя» заказы для нафтавікоў і газаправодчыкаў, з гонарам можна адзначыць, што і гэта аказалася магчымым для спецыялістаў МЗКЦ. У сусветнай аўтамабілебудаўнічай практыцы тэхніка ствараецца для адпаведных кліматычных умоў. Таму і існуюць у літаратуры тэрміны: аўтапоезд у «паўночным» выкананні ці самазвал у «трапічным» і г.д. Перад канструктарамі МЗКЦ стаяла задача стварыць аўтамабілі і аўтапаязды, каб яны надзейна працавалі як у халодных умовах пры тэмпературы мінус 40 градусаў С, так і ў спёку пустыні пры тэмпературах да плюс 50 градусаў С. Дзеля гэтага спатрэбіліся гады пошукаў не толькі новых тэхнічных рашэнняў, але і многа выпрабаванняў у розных дарожных і кліматычных умовах. І тут трэба аддаць даніну павагі і захаплення мужнасці і ўмельству інжынераў-даследчыкаў Ю.А.Мурога, А.А.Якімава, Н.Б.Пісарчыка, А.В.Кондраля, А.В.Вайтушкі, І.І.Скуратовіча, І.Т.Шпакоўскага, вадзіцеляў-выпрабавальнікаў А.І.Маталыцкага, В.Ф.Песенкі, А.Г.Савіна, М.І.Шалкевіча і многіх яшчэ. У спёку і маразы, у гразі і на снезе, на машыне «зверху», а часцей «пад машынай» яны даводзілі мадэль да першакласнай кандыцыі і ўрэшце перамагалі. На гэтай працы выпрабоўваюцца сапраўдныя мужчыны!

У лютым 1991 года наш завод становіцца цалкам самастойным. Колькі чаго перажыта за гэтыя гады: развал СССР і разбурэнне былых эканамічных сувязей, заснаваных на загадах з «цэнтра», але і ўпэўненасці, што прадукцыю забяруць і грошы на зарплату будуць своечасова, цяжкасці непазбежнай канверсіі, сыравінныя і фінансавыя праблемы... Рынкавыя ўмовы, да якіх прамысловасць увогуле не была падрыхтаваная і таму паставіла многія заводы ў цяжкае становішча. Але ў нас ніхто не распускаў нюні і нікому не скардзіўся. Так наканавана жыццём, значыць проста трэба як мага хутчэй вучыцца дзейнічаць у новых умовах, «круціцца». У нас не чакаюць, што вернецца былое, а мужна глядзяць праўдзе жыцця ў вочы.

У нас аддаюць належнае дырэктару завода В.А.Волкаву, які адразу ж цвяроза ацаніў сітуацыю і здолеў сабраць вакол сябе высокаінтэлектуальную «каманду» — не столькі маладую па гадах, колькі па духу, па ўменню сучасна мысліць і дакладна асэнсоўваць складаныя абставіны. Разам з галоўным інжынерам А.І.Папко, намеснікам па эканоміцы Г.А.Жыгуновым, галоўным канструктарам В.Я.Чвялевым, начальнікам камерцыйнага аддзела В.М.Воўкам, начальнікамі цэхаў і аддзелаў дырэктару завода ўдалося згуртаваць увесь працоўны калектыў прадпрыемства, «удыхнуць» у людзей аптымізм і веру ў свае творчыя таленты і сілы. Была распрацавана комплексная праграма канверсіі — пераходу на «мірныя рэйкі». Канструктары ствараюць новыя аўтамабілі і аўтапаязды, з'яўляюцца новыя пакаленні машын, якім за іх якасці па праву далі назву «Volat» («Багатыр»).

Некаторыя палітыкі шмат гавораць пра дружбу народаў СНД. Усё так, але дружба — гэта не толькі нейкія святы, прыгожыя словы... Гэта перш за ўсё ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва, надзейнасць пагадненняў. Цяпер асноўным спажыўцом прадукцыі МЗКЦ з'яўляецца расійскі канцэрн «Газпром», прадпрыемствы нафтагазавага комплексу Заходняй Сібіры і Адэскае вытворчае аб'яднанне «Краян» (Украіна), але нашу прадукцыю набываюць усё часцей і краіны далёкага замежжа — Карэя, Кітай, Арабскія Эміраты і іншыя. Прадукцыя нашага завода прыносіць Беларусі надзейную выручку ў валюце. Яго багацце — у напрацоўках канкурэнтаздольнай тэхнікі. А ўсё ж галоўнае багацце, як гэта, можа, банальна для некага не прагучыць — нашы людзі. Ну, як, гаворачы пра станаўленне завода, не ўспомніць тых, хто заўжды надзейна рабіў сваю нялёгкую справу! У іх розныя прафесіі, пасады, узрост, грамадска-палітычныя погляды, але ўсе яны ствараюць жыццяздольны і таленавіты працоўны калектыў. Назаву тых, хто вынес на сваіх плячах усе цяжкасці станаўлення і развіцця новага беларускага аўтамабілебудавання. Іх імёны ў нас называюць з пашанай. Гэта М.І.Раманоўскі, С.Т.Шарстоў, Ф.І.Ількевіч, Б.У.Баркоўскі, С.І.Калыбельнікаў, І.А.Грамовіч, А.І.Тышкоўскі, В.П.Дабранскі, А.І.Няхай, Г.Н.Валентовіч, К.А.Палюховіч, Я.А.Кульчынскі, В.Г.Кізінаў, І.І.Астраўлянчык, М.А. Жэчка, Г.В.Плятнер, П,А.Сайкевіч, І.І.Даўгалёў і іншыя.

Гэты кароткі нарыс пра МЗКЦ будзе няпоўным, калі не ўспомніць пра эксперыментальны цэх. Калі хто наведае наша прадпрыемства, раю зазірнуць на зборачны ўчастак гэтага цэха. Незвычайнае відовішча ўяўляе сабой тут кожная машына, аблепленая бы мурашамі слесарамі-зборшчыкамі і канструктарамі. Тут нараджаецца «ў метале» будучыня нашага прадпрыемтсва, тое, што непакоіць нашых канкурэнтаў ва ўсім свеце і ўжо цяпер цікавіць патэнцыяльных спажыўцоў. А завод, як ужо было адзначана, заўважаны на сусветным рынку аўтамабілебудавання. Нездарма ён атрымаў запрашэнне да ўдзелу ў міжнароднай аўтамабільнай выставе «Аўтасалон-95». Канешне, нас там чакае сур'ёзная канкурэнцыя. Але мы аптымісты. Якія для гэтага падставы? Гэта нашы сучасныя арыгінальныя распрацоўкі. І зноў жа вельмі важная рэч — ЯКАСЦЬ і НАДЗЕЙНАСЦЬ.

На працягу ўсёй працоўнай гіс-торыі завода наша прадукцыя кантралявалася і прымалася спецыялістамі ваеннай прыёмкі ды ў дадатак — ракетчыкаў. Многія ваенныя стандарты прымушалі асабліва клапаціцца аб павышанай надзейнасці механізмаў і сістэм, больш высокай, чымся гэта прынята ў «мірнай» аўтамабільнай прамысловасці. У нас гэты прынцып застаецца. Таму наша тэхніка для «мірных» патрэбна і зараз нічым не саступае прадукцыі, якая ідзе для ракетных установак. Гэта ўжо наша марка.

Канешне, не ўсё бясхмарнае ў дзейнасці нашага завода, цяжкасцей і праблем болей, чымся дастаткова. Але пра нашу марку ўжо сказана, завод дзейнічае і настрой у калектыве аптымістычны.



Ракетная ўстаноўка «Смерч» на колавым шасі МАЗ-543М



Бартавы аўтамабіль Волат-79092



Аўтакран на колавым шасі МЗКЦ-6923



Аўтамабіль-самазвал МЗКЦ-6515

*У далейшым «Наша слова» працягне аповяд пра гэтага унікальнага Волата.*

# Прыклад сапраўднай славянскай еднасці паказваюць чэхі

***14—15 жніўня ў Празе адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя з назвай «Руская, украінская і беларуская эміграцыя ў Чэхаславакіі паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Вынікі і перспектывы праведзеных даследаванняў фонду Славянскай бібліятэкі і праскіх архіваў». Сярод яе удзельнікаў была і старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач, гутарку з якой карэспандэнта «Нашага слова» прапануем нашым чытачам.***

**— Чаму месцам правядзення канферэнцыі была абраная Чэхія?**

— Вядома, што ў даваенным часе Прага была цэнтрам эміграцыі беларускага, украінскага і расійскага паходжання. Тагачасны прэзідэнт краіны Томаш Масарык быў перакананым панславістам, і таму ўрад Чэхаславакіі аказваў значную падтрымку ўцекачам з усходу, якія пацярпелі ад усталяванай у іх на радзіме камуністычнай улады. Эмігранты з паслярэвалюцыйнай Расіі, са знішчаных Беларускай Народнай Рэспублікі ды Украінскай Народнай Рэспублікі знайшлі сабе прытулак у Празе. Менавіта гэты горад, а не часцей згадваны Парыж стаў яе цэнтрам.

Сваё адметнае месца займалі ў белай эміграцыі і беларусы.

**— Але ж паняцце «белая эміграцыя» паўсюдна ўжываецца ў дачыненні да манархічна настроенай яе часткі, той, што імкнулася да адраджэння Расійскай імперыі?**

— Думаю, што гэтае акрэсленне павінна ўжывацца больш шырока і ўключаць у сябе ўсіх тых, хто пакінуў тады радзіму з-за непрыняцця імі новай, савецкай улады. Гэтыя людзі прытрымліваліся розных поглядаў — сярод іх былі манархісты, прыхільнікі ўрада Керанскага, змагары за дзяржаўнасць і незалежнасць Украіны ды Беларусі. Але ўсіх іх яднала адно — яны не прынялі камуністычнай дыктатуры выехаўшы з радзімы, стварылі новую хвалю ўсходняй эміграцыі — так званую белую.

**— Незалежна ад таго, як назваць сёння гэтых людзей, доўгі час мы не ведалі аб іх практычна нічога...**

— Так, да нядаўняга часу гэтая тэма была закрытай. Усе дакументы, што датычылі яе, хаваліся ў архівах і практычна не даследаваліся. За апошнія гады становішча змянілася: адкрыліся архівы, з'явіліся ў масавым друку нейкія публікацыі, але гэта сведчыць толькі аб легалізацыі тэмы — не больш таго, бо нейкіх сур'ёзных даследаванняў у гэтай сферы не робіцца, ва ўсялякім разе ў нас, на Беларусі. І мне было трохі дзіўна, што даследаваць гэтую праблему, якая найперш мусіць цікавіць нас, пачалі менавіта чэхі. Дзіўна тым больш, што за дапамогу, якую яны нам аказалі ў тыя гады, мы ў жніўні 1968 года адплацілі ім задушэннем вызвольнага руху. За гэтую шчырую і бескарыслівую дапамогу ў справе захавання нашай гістарычнай спадчыны мы павінны быць ім удзячны.

**— Канферэнцыя, у якой вы ўдзельнічалі, ладзілася чэскімі арганізацыямі?**

— Практычна цалкам — чэскім бокам: Славянскай бібліятэкай — часткай Чэскай нацыянальнай бібліятэкі, Славянскім інстытутам Акадэміі навук Чэхіі, Таварыствам вывучэння Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Акрамя таго, канферэнцыя была падтрыманая чэскімі Міністэрствам замежных спраў і Міністэрствам культуры, чэскім аддзелам Фонду Сораса.

Арганізатары накіравалі запрашэнні афіцыйным структурам у Беларусі, Украіне ды Расіі праз свае пасольствы. І ўрадавыя навуковыя ўстановы ўсіх, акрамя нашай, краін бралі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да яе.

**— Удзел Беларусі ў канферэнцыі меў іншы выгляд?**

— У Празе я пачула, што чэхі даслалі запрашэнні да ўдзелу ў нашыя Інстытут літаратуры ды Інстытут гісторыі Акадэміі навук, але пазней ад кіраўніцтва гэтых установаў я пачула, што ніякіх прапановаў яны не атрымлівалі. Таму дзяржаўныя структуры Беларусі на канферэнцыі прадстаўленыя не былі. Увогуле, удзел у ёй беларускага боку аказаўся выпадковым, бо аб падрыхтоўцы нарады ў Празе я сама даведалася прыватным чынам — праз прафесара БДУ Ірыну Шаблоўскую — кіраўніка таварыства «Беларусь—Чэхія», якая мае добрыя кантакты з калегамі ў Чэхіі.

Адзін з кірункаў дзейнасці таварыства «Бацькаўшчына» — вывучэнне лёсу беларускай эміграцыі. З гэтае прычыны тэма канферэнцыі нас зацікавіла. Таму беларускія даследчыкі, якія паехалі ў Чэхію, прадстаўлялі не дзяржаўныя, а грамадскія арганізацыі: таварыства прыязні «Беларусь — Чэхія», «Бацькаўшчыну». Сама я доўгі час працавала ў архівах, вывучала праскі Беларускі заграанічны архіў, беларускую эміграцыю ў Чэхіі міжваеннага часу. Гэта — тэма маіх навуковых даследаванняў і падстава да ўдзелу ў канферэнцыі. Магу вас запэўніць, што гаварыць з нашымі калегамі-гісторыкамі было аб чым, нягледзячы на тое, што наша дэлегацыя была самай меншай — толькі пяць асобаў.

**— Вы адчулі сябе там патрэбнымі?**

— Так. Арганізатары былі вельмі задаволеныя нашым прыездам. Да таго ж два нашыя даклады падаліся ім настолькі цікавымі, што яны былі зачытаныя на агульным пасяджэнні ўдзельнікаў канферэнцыі. Мы рабілі даклады аб беларускім студэнцтве ў Чэхаславакіі, пра нашыя кнігазборы ў нацыянальнай бібліятэцы Чэхіі, пра беларускія архівы ў гэтай краіне. Дарэчы, разам з намі ў Прагу прыехаў прадстаўнік рускай эміграцыі, які жыве ў Менску, хаця і нарадзіўся ў Празе, — Сяргей Ціллі — нашчадак генерала Вайцэхоўскага, які служыў у арміях і Расіі, і Чэхіі.

**— Што даў вам удзел у канферэнцыі?**

— Найперш — разуменне патрэбнасці справы, якую мы робім. Гэта паказала нам паўсюдная цікаўнасць да дакладаў, чытаных удзельнікамі нашай дэлегацыі. Бо многія з прысутных упершыню даведаліся, што беларуская эміграцыя ў Чэхіі радыкальна розніцца з расійскай і украінскай ужо тым, што ў Празе на працягу каля дваццаці гадоў існавалі не асобныя эміграцкія арганізацыі — там дзейнічаў урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта былі людзі, якія прадстаўлялі законна абраны ўрад фактычна акупаванай краіны, і мы напомнілі аб гэтым усім. Мы напомнілі іншым і яшчэ раз узгадалі самі гісторыю нашай краіны, якая ў вачах чэхаў, славакаў ды іншых народаў захоўвала сваю адметнасць сярод іншых савецкіх рэспублік. Бо там, у Празе, пахаваныя два прэзідэнты БНР, там знаходзяцца архівы нашай дзяржавы, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года. Гэтыя звесткі выклікалі вялікую да нас цікаўнасць з боку і гісторыкаў і Расіі, і Украіны, і Чэхіі. Да нас нават звяртаўся святар капліцы, што знаходзіцца на праскіх Альшанскіх могілках, — ён упершыню пачуў, што там пахаваныя прэзідэнты Захарка і Крэчэўскі, вядомы па ўсім свеце наш спявак Забэйда-Суміцкі, іншыя нашыя дзеячы культуры і палітыкі. Мы адчулі, што існуе падмурак, на якім могуць базавацца ўзаемадачыненні Беларусі і Чэхіі. Я прывяду толькі адзін з прыкладаў узаемнай дапамогі: у час, падзеі якога разглядаліся на канферэнцыі, у Празе, у Карлавым універсітэце вучыліся беларускія студэнты. Гэта былі сялянскія дзеці, пераважна з Заходняй Беларусі. Усяму свету тады было вядома, якое цяжкае там становішча беларусаў. І чэхі дапамагалі нам ствараць уласную нацыянальную інтэлігенцыю. Іхні ўрад аплачваў навучанне гэтых студэнтаў. І кожны з гэтых 39 студэнтаў, атрымаўшы адукацыю, зрабіў свой уклад у нашу навуку ці культуру.

**— Вы мяркуеце, што гэткія цесныя сувязі могуць быць аднёўленыя?**

— Гэта неабходна. І шмат што ў гэтым кірунку ўжо робіцца, хаця нас гэта датычыць пакуль што мала. Затое сваю гісторыю ў праскіх бібліятэках і архівах ужо актыўна вывучаюць і расійцы, і ўкраінцы. Чэскі ж Славянскі інстытут пачынае выданне часопіса «Росіка», прысвечанага пытанням русістыкі, украіністыкі і беларусістыкі. Праўда, у трох першых яго нумарах няма ніводнага матэрыяла, прысвечанага Беларусі. Я пацікавілася ў чэхаў, чаму, і пачула: наш край у рэдакцыйнай радзе прадстаўляе супрацоўнік Лінгвістычнага універсітэта сп. Міхневіч, які чамусьці не паклапаціўся аб тым, каб прапанаваць да друку нейкія публікацыі. Дарэчы, і пра існаванне гэтага выдання я пачула не з беларускіх афіцыйных крыніц, а ад знаёмых украінскіх даследчыкаў. Праз іх жа я і пазнаёмілася з выдаўцамі часопіса і дамовілася з імі аб публікацыі ў другім ды наступных нумарах артыкулаў з галіны беларусістыкі, і аб распаўсюджванні гэтага выдання ў нас.

**— А ці існуюць сёння нейкія сувязі паміж нашымі краінамі на прыватным узроўні, хай у выглядзе той жа эміграцыі?**

— Пра тое, як знішчалася ў Празе ўсё беларускае пасля прыходу ў 1948 годзе да ўлады камуністаў, пісала ў сваёй кнізе яшчэ Ларыса Геніюш. Беларускі нацыянальны рух там практычна спыніўся. Адзінымі, хто застаўся, былі Міхась Забэйда-Суміцкі ды Надзея Кастэцкая. А цяпер памяць аб праскіх беларусах захоўваюць адны чэскія гісторыкі ды філолагі-беларусісты — Вацлаў Жытліцкі, Веслаў Зімны, Францішка Сокалава, Міраслаў Зіма ды іншыя, якія ўвесь час імкнуліся захаваць кантакты паміж нашымі культурамі. Але сёння мы не толькі страцілі беларускія асяродкі ў Чэхіі, але знікае і чэская беларусістыка, падтрымка якой — справа не толькі чэхаў, але і наша.

Што да эміграцыі міжваеннага часу, дык яна цалкам знікла. Магчыма, цяпер у Чэхіі жыве нехта з тых людзей ці іхніх нашчадкаў, але доўгі час яны маўчалі, баючыся прызнацца ў сваім паходжанні і трапіць пад рэпрэсіі. Па сутнасці, сёння ў Празе існуюць дзве выспачкі беларушчыны: наша пасольства ды беларуская рэдакцыя «Радыё Свабода», дзе працуюць беларускія журналісты і ўзначальвае якую Вячаслаў Станкевіч, які разам са сваім братам Юркам Станкевічам моцна звязаны і з Чэхіяй, і з Беларуссю: іхні бацька Ян Станкевіч быў вядомым філолагам і адным з лідэраў нацыянальнага руху, а маці паходзіць з гэтай краіны.

**— Што новага даведаліся Вы пра лёс беларускай эміграцыі ў Празе?**

— Асабіста мяне, як архівіста, найбольш цікавіў беларускі архіў у Празе. Вядома, што па вайне ён, у адрозненне ад расійскага ці ўкраінскага, на радзіму не трапіў. Ён знік без следу і месца яго знаходжання невядома дагэтуль. Лёс яго такі: у 1928 годзе ў Празе быў створаны так званы Беларускі заграанічны архіў, апекаваны ўрадам БНР і курыраваны Міністэрствам замежных спраў Чэхаславакіі. Архіў меў штатных супрацоўнікаў, а стваральнікам яго быў Мікола Вяршынін. Пасля смерці Вяршыніна архіў узначаліў Тамаш Грыб. Супрацоўнікі архіва збіралі і захоўвалі беларускія дакументы. А пасля вайны архівы расійскай ды украінскай эміграцыі былі з Прагі перавезеныя адзін — у Маскву, другі — на Украіну. Там яны сталі цэнтрамі фармавання і вывучэння эміграцкай дакументацыі, якая была, нягледзячы на стаўленне да яе савецкай улады, часткай гісторыі украінскага ды расійскага народаў. Беларускі ж архіў, паўтараю, знік бясследна.

І вось, слухаючы даклад, які на канферэнцыі рабіў сп. Быстроў — прадстаўнік расійскай эміграцыі, які жыве ў Празе, я пачула ад яго наступнае: тады, у 1948 годзе, чэхі збіраліся перадаць наш архіў ураду БССР. Але так не адбылося — хутчэй за ўсё таму, што зацікаўленасці ў атрыманні гэтых дакументаў ніхто ў Менску не выказаў. Ёсць звесткі, што пасля таго архіў быў перадзены праскай Славянскай бібліятэцы.

Акрамя гэтага, у Празе быў яшчэ адзін комплекс нашых дакументаў — асабісты архіў прэзідэнта ўрада БНР Пётры Крэчэўскага. Пасля смерці Крэчэўскага архіў перайшоў да наступнага прэзідэнта — Васіля Захаркі. Пасля смерці ў 1943 годзе Захаркі архіў застаўся без гаспадара, але ўсе дакументы ў ім захоўваліся. Напачатку імі апекавалася Ларыса Геніюш. Як успамінае яна ў сваёй «Споведзі», пасля смерці Захаркі, разам з новым прэзідэнтам Рады БНР Абрамчыкам яны ўпарадкавалі архіў. Тады ж з яго былі адабраныя Абрамчыкам два чамаданы папераў і вывезеныя ў Парыж. Сёння гэтая частка збору знаходзіцца ва ўдавы Абрамчыка.

Потым архівам зацікавіўся гаўляйтар Беларусі Кубэ. У рускім заграанічным архіве я адшукала звесткі аб тым, што ён адаслаў з Менска ў Прагу чалавека, які мусіў упарадкаваць і захоўваць гэты збор дакументаў, а потым перадаць яго ў рускі заграанічны архіў.

Я даведалася, што гэтыя дакументы і сапраўды былі паводле вопісу перададзеныя ў архіў створанага немцамі пратэктарата Багеміі і Маравіі, але які гэта быў архіў — невядома. Ва ўсялякім выпадку, рускі заграанічны архіў у яго не ўваходзіў, бо слядоў беларускіх дакументаў у рускім замежным архіве, які цяпер захоўваецца ў Маскве, я не знайшла. Магчыма, гэтыя паперы дагэтуль знаходзяцца ў Чэхіі, але дзе? Асабіста для мяне, як для даследчыка, вялікую каштоўнасць мелі тыя пра іх звесткі, што прагучалі на канферэнцыі. І я спадзяюся, што супольная праца гісторыкаў Беларусі, Чэхіі ды Расіі дазволяць вярнуць гэтыя **дакументы нашаму народу.**

**— У чым іхняя каштоўнасць?**

— У архіве прэзідэнтаў БНР захоўваліся дакументы, якія датычылі фармавання і працы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта — сведчанні барацьбы нашага народа за сваю дзяржаўнасць, дакументы навейшай гісторыі нашай дзяржавы.

**— Які, на Вашу думку, выгляд павінны мець далейшыя кантакты беларускіх даследчыкаў з чэскім бокам?**

— Пасля канферэнцыі нашая дэлегацыя правяла перамовы з чэскім таварыствам прыязні з народамі Усходняй Еўропы. Са сп. Яраславам Шлезэрам — кіраўніком гэтай арганізацыі і яго намеснікам сп. Рэмэкам — мы дамовіліся аб правядзенні ў нас сёлета ў кастрычніку нарады, тэмай якой будзе разгляд лёсу беларускай эміграцыі ў Празе. У яе праграму будуць уключаны выстава беларускага мастацтва, правядзенне вечарыны «Беларусы ў Празе», ушанаванне тых мясцін у Чэхіі, дзе жылі і працавалі нашыя дзеячы, сустрэчы ў Славянскай бібліятэцы і Карлавым універсітэце. Думаю, што такая дзейнасць нашых грамадскіх арганізацый паспрыяе наладжванню кантактаў паміж нашымі народамі. Бо сёння чэхі даюць нам прыклад славянскай еднасці ў тым разуменні, пачатак якому даў прэзідэнт Масарык — стаўленне да іншых народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы як да роўных. Гэта тым больш актуальна сёння, у час, калі і ў нашым краі, і за яго ўсходняй мяжой стала чуецца фраза «малодшыя браты» ў дачыненні да беларусаў. Гісторыя ж дачыненняў беларускага і чэскага народаў — гэта гісторыя бескарыслівай дапамогі, якую беларусам аказвалі на працягу дзесяцігоддзяў. А што тычыцца дачыненняў з чэскім бокам, дык гэта, на мой погляд, павінна датычыць не толькі даследчыкаў. Сувязі між нашымі краінамі існавалі і ў сярэднявеччы, і ў дваццатым стагоддзі. А мы мусім аднавіць іх і на ўрадавым, і на неўрадавым узроўні. Спадзяюся, што час, калі ў Карлавым універсітэце будуць зноў вучыцца нашыя студэнты, а чэскія навукоўцы — вывучаць дакументы гісторыі свайго народа ў беларускіх архівах, не такі ўжо далёкі.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРШАПАЧАТКО́ВЫ** (які знаходзіцца, быў у пачатку, папярэднічае іншым; які быў раней) *Вядома, першапачатковы рукапіс таксама ствараўся не без разліку на тое, каб яго можна было надрукаваць* (Бугаёў), **ПАЧАТКО́ВЫ** *У пачатковы перыяд творчасці Я.Колас быў пад прыметным уплывам моўнай практыкі «Нашай нівы»* (Каўрус). **ПЕ́РШЫ** *Хай мірна спіць малы, хай першы крок Спакойна робіць ён бацькам на радасць* (Зарыцкі), **ПЕРШАРО́ДНЫ** кніжнае *Заўсёды, як гляне даўніна сівая У вочы, нібыта настаўнік суровы, Свой сэнс першародны тады набываюць I фарбы і гукі, пачуцці і словы* (Панчанка), **ПЕ́РШАСНЫ** *Будынак царквы неаднаразова перабудоўваўся і рамантаваўся, і даследчыку прыйшлося карпатліва ўстанаўліваць першасны варыянт яго* (Ліс), **ПЕРШАБЫ́ТНЫ** *I вецер імкнецца наўсцяж развінуць сваю першабытную дужасць* (Гурскі). — *Параўнайце:* П е р ш ы.

**ПЕ́РШЫ** (пра якое-н. дзеянне, стан, уражанне, пачуццё і пад.: які папярэднічае ўсім іншым аднародным ці падобным) *Першы накід аповесці. Ледзь не кожны тыдзень, у нядзелю, збіраліся сюды сяляне навакольных вёсак на свае сходкі, і ў сініх хмарах самасаду гаманліва абмяркоўвалі новае жыццё, у якім вельмі цяжка было ім рабіць першыя крокі* (Машара), **ПЕРШАПАЧАТКО́ВЫ** *Успамін гэты вярнуў яго [Нора] да першапачатковага пытання, якое і выклікала ўсе гэтыя думкі* (Шамякін), **ПАЧАТКО́ВЫ** *Сама тэма адлюстравання першых, пачатковых крокаў партызанскага руху на Беларусі не прадугледжвае такога шырокага паказу* (Хромчанка), **ПЕ́РШАСНЫ** *Сюды ўваходзіць церабленне льну, яго абмалот, ...а ў некаторых гаспадарках і першаснай апрацоўкі льнотрасты* (Абразоўскі). — *Параўнайце:* П е р ш а п а ч а т к о в ы.

**ПЕ́РШЫ РАЗ** (звычайна з адмоўем «не»; які папярэднічае другому разу) *Не першы раз нам такое рабіць. Не першы раз [Хадоська] шкадавала, што сваякі ўсе ці ў Куранях, ці ў сёлах паблізу* (Мележ), **ПЕРШЫНЯ́** і **ПЕРШЫНА́** (звычайна з адмоўем «не») разм. *Выдатных спевакоў мне чуць не першыня* (Крапіва). — *Што мне, першыня? — важна прамовіў Уладзік, беручыся за аброць і перакідаючы павады на шыю каня* (Васілевіч). *Не першына была, што ў Мыселках цімакі хаваліся, аднак жа гэтую тройцу Тарас надта неахвотна прымаў, быццам чуў брыду* (Гарэцкі). *Ну што ж, прагаласуем, не першына* (Міська).

**ПЕРЫФЕРЫ́ЙНЫ** (які мае адносіны да перыферыі; звязаны з аддаленай ад сталіцы, ад прамысловых, культурных цэнтраў краіны мясцовасцю; характэрны для такой мясцовасці) *Можа не лішняй была б прапанова, каб паэты і пісьменнікі... узялі шэфства над літаратурнымі аддзеламі перыферыйных газет* (Лужанін), **ПРАВІНЦЫЯ́ЛЬНЫ** устарэлае *Калі прыязджаеш у Вашынгтон з Нью-Йорка, здаецца, што трапляеш не ў сталіцу вялікай дзяржавы, а ў прыгожы, утульны правінцыяльны горад* (Новікаў). *Пасля Памыйка адкрыўся Рыгору, што ён з'яўляецца карэспандэнтам некалькіх сталічных і правінцыяльных газет* (Гартны). *У вольныя хвіліны ў каюце, абклаўшыся сякімі-такімі кнігамі пра Поўнач, ты мог ужо без правінцыяльнага здзіўлення чытаць пра тое, што дрэва тут вырастае па два сантыметры ў год* (М.Стральцоў), **ГЛЫБІ́ННЫ** *Вёска была глыбіннай — за цэлых сорак кіламетраў ад чыгункі* (Навуменка). *Ты пытаешся, дарагая, як я ўладкаваўся на новым месцы? Накіраванне атрымаў адразу. Праўда, у глыбінны раён паслалі* (Пархута).

**ПЕРЫФЕРЫ́Я** (мясцовасць, аддаленая ад сталіцы, ад прамысловых, культурных цэнтраў краіны) *Наш гарадок невялікі, ціхі і знаходзіцца ў тым месцы рэспублікі, якое завецца перыферыяй* (Нядзведскі). *I будзе вялікай памылкай накіраваць яе [Іванову] зараз куды-небудзь на перыферыю, дзе яна напэўна не здолее...* (Васілевіч), **ПРАВІ́НЦЫЯ** уст. *[Вера:] — Ты павязеш ад мяне пакуначак для бацькоў, а шпікі данясуць, што я забароненую літаратуру пасылаю на правінцыю* (Машара), **ГЛЫБІ́НКА** разм. *У асеннюю ці вясновую бездараж... машыны толькі ранкам, па ледзьве прымарожанай уначы дарозе дабіраліся ў райцэнтр, ды і то з блізкіх калгасаў: глыбінка, як скажам, «Рассвет», у гэтакі ростарап толькі чакала сваёй сушэйшай пуцявіны* (Карамазаў).

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

***Гісторыя моваў на Беларусі***

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Тры сферы сучаснага вуснага маўлення — дыялект, прастамоўе, літаратурнае гутарковае маўленне — адрозныя паміж сабой перш за ўсё па складу носьбітаў».*

**Гарадское прастамоўе: Праблемы вывучэння.**

## Як разумеліся ў Вялікім Княстве

*(Працяг.)*

Кайнэ як своеасаблівая наддыялектная форма існавання мовы таксама магла існаваць у буйных гарадах. Ім маглі карыстацца ў вуснай форме прадстаўнікі розных дыялектных зон Беларусі. Назва паходзіць ад грэцкага koine — «агульны» — **гэта функцыянальны тып мовы, які выкарыстоўваецца ў якасці асноўнага сродку паўсядзённых зносін з шырокім дыяпазонам камунікатыўных сфер ва ўмовах рэгулярных сацыяльных кантактаў паміж носьбітамі розных дыялектаў ці моў**. Першапачаткова тэрмін «кайнэ» прымяняўся ў лінгвістыцы толькі ў адносінах да агульнагрэцкай мовы, якая склалася ў эліністычны перыяд (IV—III стст. да Х.н.) на іанійска-антычнай дыялектнай аснове і якая служыла адзінай мовай дзелавой, навуковай і мастацкай літаратуры Грэцыі да II—III стст. ад Х.н. У сучасны момант гэтае слова — шырока распаўсюджаны ў лінгвістыцы тэрмін, які абазначае абагулены тып вуснага маўлення — адну з форм існавання мовы. Па словах мовазнаўцы Валянціна Аўрорына, «**кайнэ можна вызначыць як сродак міждыялектных, а іншы раз і міжэтнічных зносін, які ўзнікае першапачаткова ў гандлёвых, ваенных або культурных мэтах, на базе аднаго ці групы блізкіх дыялектаў, які паступова ўбірае ў сябе таксама і некаторыя спецыфічныя асаблівасці іншых дыялектаў (іншым разам — моў)**». Сацыяльнай перадумовай з'яўлення міждыялектнага сродку зносін служыць **змешаны склад насельніцтва**, якое пражывае ў горадзе або ў тым ці іншым рэгіёне краіны. **Адрозніваюць кайнэ гарадскія і абласныя (сельскія)**. Для старажытнасці асабліва характэрна ўзнікненне гарадскіх кайнэ, якія служаць не толькі міждыялектнай формай бытавых зносін, але і абслугоўваюць больш высокія сферы зносін — судаводства, гарадское кіраванне, а таксама вусную паэзію, народныя абрады. Гарадскія кайнэ дзякуючы ўплыву гарадоў на эканамічнае, культурнае і моўнае жыццё прылягаючых і больш аддаленых тэрыторый ператваралася **ў рэгіянальнае кайнэ**. Гістарычна кайнэ можа папярэднічаць узнікненню пісьмовай мовы. Часта яны становяцца базай літаратурнай мовы. Лонданскае кайнэ паслужыла базай англійскай літаратурнай мовы, пекінскае — кітайскай, кайнэ горада Эда — японскай і г.д. На Беларусі вучонымі выяўлена і апісана смаленска-полацкае кайнэ, на якім напісаныя граматы. Нарвежскі беларусазнаўца Хрысціян Станг, старанна вывучыўшы мову грамат важнейшых канцылярый Вялікага Княства Літоўскага, вылучыў некалькі тыпаў актавай мовы. Гэта смаленска-полацкі, паўднёва-валынскі, паўночна-валынскі (паўднёва-беларускі), віленскі тыпы. Віленскі тып стаў галоўным, у ім раствaрыліся астатнія. Трэба думаць, што асновай для кожнага з гэтых тыпаў паслужыла адпаведнае кайнэ. Базай сучаснай беларускай літаратурнай мовы паслужылі менска-маладзечанскія гаворкі.

**Прастамоўе**. У мове побач з вуснымі стылямі літаратурнай мовы існуюць нелітаратурныя стылі ўжыткова-гутарковага маўлення, г.зн. прастамоўе. Адрозненне гэтых стыляў заключаецца ў выкарыстанні нелітаратурных пластоў лексікі і адносна свабодных сінтаксічных пабудоў. Безумоўна, элементы гэтай формы можна выявіць у тых жа пісьмовых помніках, хоць гэта тэма асобнага даследавання. У старажытнасці, калі яшчэ не былі сфарміраваны стылі літаратурнай мовы, у адным стылі можна сустрэць элементы іншых. Прастамоўе — кампанент мовы, проціпастаўлены, з аднаго боку, літаратурнаму маўленню, з другога — тэрытарыяльным дыялектам. У прастамоўя свой склад носьбітаў, свой «сацыяльны субстрат». Структура і функцыя, сацыяльная база прастамоўя ў розныя часы былі розныя. Дзве—тры фразы, якія ўключаюць у сябе элементы прастамоўя, дыягнасціруюць маўленне гаворачага і яго сацыяльна-культурны і маўленчы статус. Так, як і зараз, пачуўшы з вуснаў свайго суразмоўцы «перлы» накшталт **трансбой** (зам.брандспойт), **дзерманцін** (зам. дэрмацін), **ліноль** (зам.ліналеум), **інцындэнт** (зам.інцыдэнт), **прэцэндэнт** (зам. прэцэдэнт), разумееш, **што твой шаноўны суразмоўца — невук**. Не выпадкова кніжная беларуская мова «Метраў», якімі Сімяон Полацкі вітаў расійскага цара Аляксея Міхайлавіча ў захопленым ім Полацку, здавалася манарху і баярам сапсаванай расійскай. **Справа ў тым, што ўсходне-славянская лексіка, якая ў беларускай мове стала нормай, у расійскай набыла статус абласной (накшталт слова пригожий, якое можна сустрэць толькі ў расійскіх фальклорных тэкстах)**. Вось чаму ўвагу саноўных слухачоў Полацкага прыцягнула ў яго вершах слова «нехай», якое ў адным радку паўтараецца двойчы («Нехай ганбу отнесут, нехай же и погибают»). Таму не выпадкова ў 1660 г. у Маскве дзьяк і спраўшчык Друкарскага двара Саўваціій насмешліва назаве «кіеўскіх старцаў» (разам з Сімяонам Полацкім быў і ўкраінскі пісьменнік Ігнацій Іяўлевіч, які доўга жыў на Беларусі) «прыезджымі нахаямі». Відаць, гэта была наогул мянушка, дадзеная беларусам масквіцянамі з-за «нелітаратурнасці», з іх пункту погляду, нашай мовы. Фактычна гэтая мянушка стала этнонімам беларусаў, зніжаным сінонімам саманазвы этнасу (параўн. такога тыпу мянушку каталікоў «няхбэндзік» ад спалучэння «Niech będzie», якое часта паўтараецца ў іх малітвах). Вышэйзгаданая мянушка-этнонім стала пасля пашыраным прозвішчам на Беларусі: **Няхай, Няхайчык**, што азначае «беларус».




Прастамоўе не ўяўляе сабой адзінай сістэмы, яго элементы не складаюць поўных парадыгмаў ні на адным з узроўняў мовы. Носьбітам прастамоўя на граматычным узроўні з усёй парадыгмы скланення назоўнікаў множнага ліку характэрнай з'яўляецца форма меснага склону з прыназоўнікам **па**, уніфікаваная па ўзору расійскай мовы па давальнаму склону (па вуліцам, па дарогам, па краінам, па справам і г.д.). Таму прастамоўе разумеецца як сукупнасць асаблівасцей маўлення асоб, якія не цалкам валодаюць нормамі літаратурнай мовы. Даступныя носьбіту прастамоўя моўныя сродкі прымяняюцца таму, што ён не валодае іншымі магчымасцямі. З сацыяльнага пункту погляду прастамоўе — гэта гаворка неадукаваных слаёў грамадства, маўленне якіх прыкметна кантрастуе з апрацаванай нормай літаратурнай нацыянальнай мовы.

Прастамоўе мяняецца ў розныя перыяды свайго развіцця як у структурна-лінгвістычным, так і ў функцыянальным плане. Не застаецца пастаянным і сацыяльны склад носьбітаў. Розныя ў розныя часы і крыніцы прастамоўных сродкаў. Калі ў пачатку стагоддзя прастамоўе беларускай мовы фарміравалася за кошт дыялектнага словаўжывання, то зараз, у другой яго палове, гэта русізмы і рознага роду калькі і паўкалькі з расійскай мовы, якія, на жаль, можна сустрэць нават у друкаваных выданнях. Гэта «трасянізмы» накшталт астаноўка (зам. прыпынак), злабадзённы (зам. надзённы), накірунак (зам. кірунак), палажэнне (зам.становішча) і інш. Элементы прастамоўя старажытнага перыяду беларускай мовы траплялі ў пісьмовыя тэксты і дзякуючы гэтаму захаваліся да нашага часу. Як відаць з тэкстаў, элементы прастамоўя, нават нелітаратурнага (бо ёсць яшчэ і літаратурнае прастамоўе), сустракаліся і ў маўленні прадстаўнікоў адукаваных слаёў грамадства. Так, «непечатныя» выразы ў ролі стылістычна нейтральных тэрмінаў адзначаны ў выданнях Францішка Скарыны, Памвы Бярынды і іншых старабеларускіх аўтараў. Так, Скарына ў значэнні «незаконнанароджаны сын» у сваім перакладзе-рэдакцыі Бібліі ўжывае прастамоўнае слова «выбледокъ» («Не вниидеть сынъ неправого ложа, или выбледокъ даже до десятого роду во снемъ г(о)с(по)день». Другазаконне, ліст 44). У судовых дакументах старажытнага перыяду знаходзім выразы: лаяти, лаяти ажъ доматери (мацюкацца), слова неучтивыи мовити; словы злыми лаяти, і г.д.: онъ князя Семена на рынку лаялъ ажъ до матери (Літоуская метрыка, 1498 г.); на што Исакъ и Лейбъ жидове не дбаючи; на самого отца Іова кинулись и лаючи его до матки, за груди взявши, шарпали и били (Віцебска-магілеўскія акты, 1631 г.); словы неучтивыми лаелъ, соромотилъ (Там жа, 1632 г.). Гэтыя прыклады сведчаць аб тым, што нашыя продкі не заўсёды падбіралі выразы і тады ім даводзілася адказваць перад судом за абразу гонару і годнасці, як зараз выражаюцца дэпутаты гістарычнага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12 склікання. А ўсё гэта — доказ існавання нелітаратурнага прастамоўя старажытнага перыяду беларускай мовы. Таму элементы беларускага прастамоўя старажытнага перыяду можна выявіць шляхам супастаўлення запісаў маўлення людзей з мяркуема розным адукацыйна-культурным узроўнем (напрыклад, паказанні рамеснікаў, сялян у судзе і творы пісьменнікаў, вучоных, прадстаўнікоў духавенства). Прастамоўнымі ў дачыненні да старажытнага перыяду, як і зараз, можна лічыць, напрыклад, рознага роду формы, народжаныя ўяўнаэтымалагічным вытлумачэннем іншамоўных слоў. Чуючы нязвыклыя, з пункту погляду роднай мовы чужамоўныя словы беларус імкнуўся атаясаміць іх з наяўнымі ў яго лінгвістычнай свядомасці маўленчымі стэрэатыпамі («так больш звыкла»). У выніку ў наш час атрымалася прастамоўная форма спінжак (ад «спіна»), а ў старажытнасці — формы накшталт **петакгокгъ** (зам. **педакгокгъ**, нібы ад «пета»), **абтекарь** (зам. **аптекаръ**), **авденцыя** (зам. **аудиенцыя**), **куроспондентъ** (зам. **кореспондентъ**, нібы ад «куръ», г.зн. «певень»), **алкоронъ** (зам. **алкоранъ**, нібы ад «корона»), **аператъ** (зам. апаратъ), **архиморитъ** (зам. архимандритъ), **астрономъ** (зам. **астрономъ**, нібы ад «**сотрый**»). Сюды ж можна аднесці і рознага роду гіпернармалізмы, калі гаворачы, імкнучыся гаварыць правільна і не будучы дастаткова пісьменным, дапускае памылкі «ў другі бок», напрыклад, ужываў «о» там, дзе павінна быць «а» і інш.: **олтариста, онбаръ, анбонъ** (як тут не прыгадаць *сучаснае прастамоўнае «канпот»?*), **опаратъ** і інш. Менавіта такія элементы былі характэрныя заўсёды для сацыяльнай базы прастамоўя, **яны выяўляюць асноўную рысу гэтай сацыяльнай групы — непісьменнасць**.

Нягледзячы на многія структурныя хібы прастамоўя, ёсць падставы адносіць яго да форм існавання, прычым важнейшых, і вывучаць у сацыялінгвістыцы ў якасці важных кампанентаў нацыянальнай мовы. Прастамоўе — праблема сацыялінгвістычная, а ў сацыялінгвістыцы дзейнічае, як правіла, шматмерны падыход з улікам асобаснай і сацыяльнай характарыстыкі суразмоўцаў, іх установак, намераў, агульнага вопыту, перадгісторыі і ўмоў працякання размовы. Афарбоўка ствараецца не аднымі ўласна моўнымі сродкамі, а комплексам фактараў, у тым ліку і пазамоўных. Неадукаваны чалавек не заўважае сваёй непісьменнасці. Даступныя яму моўныя сродкі (асабліва ў граматыцы) прымяняюцца таму, што ён не мае іншых магчымасцей, тады як культурны чалавек свядома вырашае, як яму лепш выразіцца.

*(Заканчэнне будзе.)*

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*Алесь за бэльку сунуў руку,*
*Раз справа ходзіць пра навуку,*
*Дастаў сваю цятрадзь старую.*
*— Вось паглядзі, як я малюю,*
*Якіх я тут наставіў птушак,*
*Каракуль розных, завітушак.*

**Маляваць**. Ням. malen, с.-в.-ням. mālen 'адзначаць знакам', потым — 'фарбаваць, маляваць', ст.-в.-ням. mālōn, mālēn; гоц. mēljan 'пісаць', '(на)маляваць' узыходзіць да Mal n 'знак'. Корань mei-, mai- 'заплямлены, брудны'.

*Вось-вось пакажацца звяруга!..*
*Ды доўга гэта штосьць натуга —*
*Няма, а быць ужо пара.*
*Цьфу ты! Што ж гэта за мара?*

**Мара**. Ням. Mahr m, f, с.-в.-ням. mar m, f 'начная здань, якая мучае, злы дух, які мучае людзей', ст.-в.-ням. mara f (народная этымалогія ідзе ад merrie 'кабыла'). З герм. запазычана другая частка слова ў франц. cauchemar 'кашмар'. Французскае слова — складанае ўтварэнне caucher ад лац. calcāre 'наступаць, душыць' і ст.-в.-ням. mara f.

Мара ёсць і ў іншых індаеўрапейскіх мовах. Роднасная гэтаму слову другая частка рус. слова 'кикимора'.

*І не любіў наогул вуды*
*І гэтай вудавай маруды.*

**Марудзіць.** Ням. marode 'стомлены, змардаваны, знясілены, не здатны рухацца далей'. Запазычана ў 30-гадовую вайну ад франц. maraud m 'лотар, латруга'. Першапачаткова ўжывалася, калі гутарка ішла пра салдатаў, што адбіліся ад войска і рабуюць. Узыходзіць да лац. malā hōrā 'у злую часіну'.

*Ну, чалавек старога складу,*
*Калі што скажа, то да ладу,*
*Але дзе крыўда і махлярства —*
*Тады дзед меў адно лякарства.*

**Махляваць**. Ням. makeln, mäkeln памяншальнае ад maken=machen 'рабіць пасрэдніцкія здзелкі (гешэфты)'; machen 'рабіць'. Адсюль Makler m, 'маклер'.

*Ну, што ж? пабачым,*
*памяркуем,*
*А здзеку, клін не падаруем.*
*Дарэктар выдаўся мяркоўны*
*І лепшы нават, як свой кроўны.*

**Меркаваць.** Ням. merken, с.-в.-ням., ст.-в.-ням. merken, merchen 'звяртаць увагу (на што-н., на каго-н.), назіраць (за чым-н.); прыкмячаць; адрозніваць; разумець' утваральнае ад Marke f 'знак'.

*Ды толькі мушу я прызнацца:*
*Як пачынала ўжо змяркацца*
*І пана з плачам пахавалі,*
*Усе леснікі пілі, гулялі.*

**Мусіць.** Ням. müssen, с.-в.-ням. müezen, ст.-в.-ням. muozan прэтэрыта-прэзэнтны дзеяслоў, асноўнае значэнне 'прыйсці ў стан нешта зрабіць, апынуцца ў становішчы нешта зрабіць', але дзеянне гэта супраць волі суб'екта. І.-е. корань med- з першапачатковым значэннем 'я сабе прызначыў; валодаю, як мне прызначаным: прастора, час, зручны выпадак, магчымасць, моц'.

Папытай у кнігарні

## Для ўсіх, хто цікавіцца культурай свайго народа

«Беларусазнаўства, або беларусістыка, беларосіка, альбарутэніка — гэта паняцце, якое ўключае кола разнастайных ведаў па гісторыі, мовазнаўству, літаратуразнаўству, краязнаўству, этнаграфіі, фалькларыстыцы, мастацтвазнаўству і іншых». Так пачынаецца падручнік па беларусазнаўству для 10—11 класаў, які выйшаў з друку ў 1994 годзе. Сёння падобныя выданні прыцягваюць увагу ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай сваёй Радзімы асабліва моцна — бо хто ведае, які лёс чакае гэтыя падручнікі, ці будуць па іх навучацца школьнікі і колькі гадоў будуць навучацца... І ці не знікнуць яны раптоўна з паліцаў кнігарняў з прычыны недасканаласці, неадпаведнасці, прадузятасці тэкстаў і да т.п.? Згаданы падручнік падрыхтаваны Беларускім навукова-метадычным цэнтрам гульні і цацкі Міністэрства адукацыі. Зборнікаў такіх усяго чатыры. Першы — для 1—4 класаў — расказвае пра беларускія народныя гульні, карагоды, лялькі, абрады, звычаі, забавы. Даецца паняцце пра беларускі народны каляндар і літаратурную апрацоўку фальклору. Другі зборнік, для 5—7 класаў, знаёміць з легендамі і паданнямі зямлі беларускай і народным мастацтвам. Трэці зборнік, для 8—9 класаў, расказвае пра краязнаўства і этнаграфію беларусаў. І вось чацвёрты зборнік, які дае чытачу звесткі пра беларускую музыку і народнае дойлідства Беларусі. Над курсам «Беларусазнаўства» для І—ІІ класаў працаваў часовы творчы калектыў, у складзе якога такія вядомыя спецыялісты, як Алесь Лозка, Лідзія Кулажанка, Аляксандр Лакотка. У зборніку змешчаны багаты і цікавы матэрыял на згаданыя тэмы. Чытаць яго цікава любому, нават і неспецыялісту. У прадмове да падручніка кіраўнік аўтарскага калектыву Алесь Лозка зазначае, што па распрацоўках калектыву з 1990 г. вядуцца ўрокі ў сярэдняй школе № 191 г. Менска, а ў будучым, пасля ўдасканалення і апрабавання, плануецца зрабіць «Беларусазнаўства» асобным абавязковым прадметам агульнаадукацыйнай школы. Дай Бог, каб так усё-ткі сталася.

Л.Ш.

Меркаванні

## «Расійская мова» ці ўсё ж такі «руская мова»?

У артыкуле «Чаму «Наша слова» ўжывае тэрмін «расійская мова»?» (Наша слова, № 33—34, 16—23. 08.95) аўтар Генадзь Кажамякін спрабуе даказаць «бязглуздасць» тэрміна «руская мова» і шкадуе, што яго не адмянілі. Больш таго, ён хоча пачуць разважанні і адносна ўжывання слоў *рассіізацыя, расіізаваны* замест агульнавядомых, агульнапрызнаных і агульназразумелых *русіфікацыя* і *русіфікаваны*. Паспрабуем адказаць на пытанні паважанага карэспандэнта і паказаць памылковасць яго адносін да выразу «руская мова».

Перш за ўсё гістарычныя спасылкі тут не могуць лічыцца дастатковым аргументам адносна значэння і ўжывання таго ці іншага слова або выразу. Слоўнікавы склад любой жывой мовы, а значыць, і беларускай таксама, пастаянна змяняецца. Адны словы выходзяць з ужытку, іншыя з'яўляюцца, змяняюцца значэнні слоў, а таксама сістэмныя сэнсавыя сувязі паміж роднаснымі лексемамі і інш. Тое, што было нарматыўным, напрыклад, у пачатку XX ст., не заўсёды адпавядае семантычным адносінам у лексічнай сістэме сучаснай беларускай літаратурнай мовы, бо яна ў працэсе свайго развіцця і функцыяніравання пастаянна ўдасканальваецца. Толькі мёртвыя мовы накшталт латыні і царкоўнаславянскай маюць нязменны слоўнікавы склад і нерухомую семантыку лексічных адзінак.

У сучаснай беларускай мове трывала замацаваліся і шырока ўжываюцца словы *рускі* і *расійскі*, а іх значэнні выразна размяжоўваюцца. Неабходна падкрэсліць, што «рускі» — гэта два словы-амонімы: *рускі* 1 — назоўнік ад'ектыўнага скланення са значэннем 'прадстаўнік рускага народа, рускай нацыі' (Параўн.: *На Беларусі пражывае 1342 тыс. рускіх*). Адпаведна: *руская* — назоўнік са значэннем 'прадстаўніца рускага народа, рускай нацыі'; *рускі* 2 *-ая, ае* — прыметнік са значэннем 'які мае адносіны да рускіх, належыць рускім; уласцівы рускім, такі, як у рускіх' *(руская мова, рускі характар, руская культура)*. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы фіксуе і такое значэнне прыметніка *рускі:* 'які мае адносіны да Русі, Расіі' *(руская гісторыя)*. Утворана слова *рускі* ад назвы *Русь* з дапамогай суфікса *-ск-*, а яго першапачатковае значэнне 'які мае адносіны да Русі, які належыць Русі' зараз адцеснена на перыферыю моўнай сістэмы, бо краіна пачала называцца *Расія*. Назва *Русь* у сучаснай беларускай мове адносіцца да разраду гістарызмаў. З цягам часу прыметнік *рускі* развіў новае значэнне 'прадстаўнік рускай нацыі' і стаў самастойным назоўнікам, аманімічным прыметнікам *рускі*, які ў сваю чаргу набыў значэнне 'які мае адносіны да рускіх, належыць рускім, уласцівы рускім, такі, як у рускіх'.

Значэнне 'які мае адносіны да Расіі, які належыць Расіі' у сучаснай беларускай мове выражаецца пераважна прыметнікам *расійскі*, што ўтвораны ад назвы *Расія* таксама з дапамогай суф. *-ск-*. Напрыклад, *расійская палітыка*, г.зн. палітыка Расіі (а не толькі рускіх). Параўн.: *руская ідэя* — грамадская плынь, якая адлюстроўвае інтарэсы рускіх, рускага народа.

На пашырэнне ўжывання прыметніка *расійскі* са значэннем 'які мае адносіны да Расіі, належыць Расіі' пэўны ўплыў аказалі знешнелінгвістычныя фактары, такія, як распад СССР і ўтварэнне самастойнай Расійскай дзяржавы.

Значэнне слова *расійскі* 'які мае адносіны да рускіх; рускі' выйшла з актыўнага ўжытку і ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы падаецца як устарэлае. Са значэннем 'рускі' ў якасці асноўнага прыметнік *расійскі* зафіксаваны толькі слоўнікамі 20-х гадоў. Такім чынам, перад намі прыклад натуральнага працэсу страты словам свайго ранейшага першапачатковага значэння і набыцця новага.

Памылковасць і недакладнасць назвы «расійская мова» праяўляецца яшчэ і ў тым, што сучасная Расія — гэта шматнацыянальная краіна, на тэрыторыі якой функцыяніруюць больш сотні розных моў. Таму натуральна ўзнікае пытанне: якую з канкрэтных моў мы маем на ўвазе, калі гаворым «расійская мова»: рускую, татарскую, удмурцкую, якуцкую ці яшчэ якую-небудзь іншую?

У прынцыпе магчымы толькі выраз «расійскія мовы» ў значэнні 'мовы народаў Расіі, г.зн. і руская, і чукоцкая, і якуцкая, і чувашская і інш.'. Параўн. выразы: *каўказскія мовы, еўрапейскія мовы,* хаця няма асобнай каўказскай ці еўрапейскай мовы.

Такім чынам, у сучаснай беларускай мове шырокаўжывальнымі з'яўляюцца два прыметнікі *рускі* 'які мае адносіны да рускіх, належыць рускім, уласцівы рускім' і *расійскі* 'які мае адносіны да Расіі, які належыць Расіі' з рознымі самастойнымі значэннямі, а выраз «руская мова» з'яўляецца адзіна правільным, які найбольш дакладна перадае змест паняцця, што ў яго ўкладваецца.

Не павінна выклікаць пярэчанняў і ўжыванне слоў *русіфікацыя, русіфікаваны, русіфікаваць, русіфікатар, русіфікатарскі, русіфікатарства*. Параўн.: *русіфікаваць* 'рабіць (зрабіць) рускім па мове, звычаях'; *русіфікацыя* 'распраўсюджанне (часта насільнае) рускай мовы і культуры сярод іншых нацыянальнасцей'.

Словы *расіізацыя, расіізаваны* трэба прызнаць штучнымі ўтварэннямі. Патэнцыяльна слова *рассіізацыя*, напрыклад, магло б абазначаць 'працэс набыцця пэўнымі грамадскімі ці сацыяльнымі з'явамі рыс або асаблівасцей, што характэрны тым жа з'явам у Расіі': *расіізацыя эканамічных адносін*. Аднак у сучаснай грамадскай і моўнай практыцы такія з'явы і паняцці не актуальныя. Наогул жа да моўнага наватарства і моўнага эксперыментатарства трэба адносіцца, як сказаў народны паэт Беларусі Н.Гілевіч, «удумліва і асцярожна»! Бо гэта ж — мова!»

**А.А.ЛУКАШАНЕЦ,**
**намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.**

***Задумайся чытач!*** *Аўтар вышэйпададзенага ліста — А.Лукашанец — спасылаецца на сучасную норму. Не ў тым рэч, што* ***рускі 1*** *— назоўнік ад'ектыўнага скланення. Страшна, што адбылася гістарычная падмена паняццяў. Цяпер расійцы могуць назваць іхнім, а не нашым усё тое, што называецца ў гістарычных рэчах рускім. Напрыклад, я чуў такую думку: Скарына быў* ***рускі****, а не беларус. Гэта бачна з ягонай Біблії... Мы бачым, што не ўсіх палохае гэтая падмена паняццяў. Некаторыя спасылаюцца на нарматыўнасць і кажуць: «Гэта зрабіў народ». Але мы ведаем, як ад імя народа ў 30-я гады «чысцілі» беларускую мову. Шукалі «ворагаў» сярод назоўнікаў, прыметнікаў... Маўляў, «нацдэмаўская лексіка» ў беларускай мове. Але сёння здолелі праз закон, у якім прагучала слова* ***мытня****, вярнуць «устарэлае» слова. Сёння яно зноў у слоўніку, які назоўнік* ***гарбата****. Вяртаецца слова* ***хвіліна*** *ў значэнні 'мера часу'.*

*Вядома ж, народ, які перш адносіў сябе да рускіх, не мог раптам уявіць сябе «нярускім». Задумайся, чытач — каго называюць «нярускім»? Хіба тут толькі рэлігійнае значэнне? Праўда, існуе назва «Руская Праваслаўная Царква».*

*Тое, што шаноўны спадар А.Лукашанец не разумее, якая мова маецца на ўвазе ў выразе «расійская мова» — якуцкая ці беларуская, ці татарская?.. — здаецца смешным. Вядома ж, не назавём мы сванскую, мегрэльскую, асецінскую і астатнія мовы народаў Грузіі — грузінскімі. А калі і сказалі б, дык усюды б гучаў адзін прыметнік —* ***грузінская*** *мова,* ***грузінская*** *тэрыторыя,* ***грузінскі*** *сцяг... А ў разыходжанні значэнняў прыметнікаў:* ***латвійскі*** *і* ***латышскі*** *няма гістарычнай падмены паняццяў. Дый у іх саманазва «латвіешы».*

*Добра, што ўжо ёсць адзін водгук на маю публікацыю. Але я хацеў бы пачуць думку не толькі маіх апанентаў, але і прыхільнікаў па ўзнятым мною пытанні.*

***Генадзь КАЖАМЯКІН.***

# Цярплівасць людзей мае межы...

*(Заканчэнне. Пачатак на с.2.)*

глядае як шырокамаштабную акцыю, што пачалася супраць яго яшчэ з мінулагодніх прэзідэнцкіх выбараў (апазіцыя, маўляў, выбірала толькі месца і момант, каб нанесці удар, а, пацярпеўшы паражэнне на сёлетніх выбарах, зусім раз'ятрылася).

Прэс-канферэнцыя, на якой 22 жніўня прадстаўнікі Народнага фронту заявілі, што абвінавачванні ў свой адрас аб дачыненні да забастоўкі метрапалітэнаўцаў яны не прымаюць як беспадстаўныя (гэта пацвярджалі і шараговыя ўдзельнікі акцыі) падліла толькі масла ў агонь. У вячэрнім «тэлешоў», у якім прымаў удзел прэзідэнт, заява БНФ на прэс-канферэнцыі была ацэнена як правакацыйная. У «нацыянал-радыкалаў» была выпушчана цэлая абойма нячыстых інсінуацый і палітычных абвінавачванняў у духу азаронкавага фільма «Дзеці хлусні». Гэта, маўляў, яны імкнуцца ўбіць клін паміж народам і прэзідэнцкай уладай. Выснова ўсяго сказанага і паказанага ў гэтыя 2 дні напрошвалася адна — «БНФаўцы — ворагі народа. І «размаўляць» з імі трэба так, як «размаўлялі» з нацдэмамі ў трыццаць сёмым годзе. Празрысты гэты намёк зразумець не цяжка.

Асабістыя заявы і ацэнкі прэзідэнта, зробленыя ім у сувязі з забастоўкай на метрапалітэне, маглі б стаць тэмай асобай гаворкі. Мэта ж маіх нататак іншая. А менавіта, — як знайсці выйсце з той небяспечнай сітуацыі, што склалася на Беларусі, і як спыніць тыя «перамогі» улады, якія вельмі ж нагадваюць прававы «беспредел», што назіраецца ў нашым жыцці?

Дарэчы, прыгадаю і нядаўні антыбеларускі рэферэндум, калі прэзідэнт атрымаў на першы погляд такую бліскучую перамогу. Тады была зганьбавана гістарычная сімволіка беларускага народа; прыніжана нацыянальная духоўная эліта, а родная мова, якая ў беларусаў толькі адна, асуджана на заніканне. Вынікам рэферэндуму стала раз'ятраная беларусафобія, зацятая барацьба ворагаў беларушчыны з дэмакратычным адраджэнцкім рухам, знішчэнне беларускамоўных школ і класаў, што няўхільна, раней, ці пазней, прывядзе да страты суверэнітэту краіны. Аб рэальных выніках рэферэндуму можна меркаваць хаця б па «ўроку нянавісці», які адбыўся ў беларускай сярэдняй бараўлянскай школе на пачатку гэтага навучальнага года, калі раз'ятраны натоўп акаючых і дзэкаючых бацькоў уварваўся ў трэці клас і патрабаваў з гэтага дня весці навучанне на рускай мове, пасля чаго дзеці адной школы ў межах адной школы падзяліліся на «рускіх» і «беларусаў». Бацькі, як адзначыла газета «ЛіМ», спасылаліся на рэферэндум і вядомыя меркаванні прэзідэнта наконт «двуязычия». На жаль, збыліся мае прадбачанні ў адносінах да А.Р.Лукашэнкі, выказаныя ў артыкуле «Які прэзідэнт нам патрэбен» («Звязда», 9 ліпеня, 1994 г.). Сапраўды аднаўляецца бальшавізм, пачынае панаваць блытаніна, падазронасць, бессаромнасць, узаемная варожасць, гвалт, што закрывае шлях да яднання народа пад гуманнай Беларускай Ідэяй.

**Дык у чым жа выйсце**? Логіка падказвае, што неадкладна трэба зрабіць на дзяржаўным узроўні — дык гэта канстытуцыйна абмежаваць уладу прэзідэнта. Любога. Ён павінен кіраваць не пры дапамозе сваіх указаў, а праз прэзідэнцкі савет (мэтазгодна, каб ён складаўся з сямі асоб — па аднаму прадстаўніку ад г. Менска і абласцей). У дапаўненні да Артыкула 100 Канстытуцыі патрэбна вызначыць функцыі гэтага савета і запісаць, што свае ўказы і рашэнні прэзідэнт павінен выдаваць пад яго кантролем. Сябры савета мне бачацца высокамаральнымі інтэлектуаламі, добрымі гаспадарамі, людзьмі, зацікаўленымі ў захаванні беларускай нацыі і дзяржаўнасці.

У Артыкуле 104 Канстытуцыі прадугледжваецца, што прэзідэнт здымаецца з пасады ў выпадку парушэння ім Канстытуцыі (што, як ужо бачна, Канстытуцыйны суд ніколі не пацвердзіць) або ўчыненага ім злачынства (што пры падначаленні ўсёй улады аднаму даказаць будзе яшчэ цяжэй). Таму пачатак дадзенага артыкула Канстытуцыі прапаную даць у наступнай рэдакцыі: «Прэзідэнт можа быць зняты з пасады ў выпадках парушэння ім Канстытуцыі, учынення злачынства, або пры неадпаведнасці гэтай высокай пасадзе па агульнаму зместу сваёй дзейнасці, рашэнне аб чым прымае толькі Вярхоўны Савет».

Пункт 13 Артыкула 100 прадугледжвае ўзнагароджанне дзяржаўнымі ганаровымі адзнакамі, чынамі і званнямі таксама толькі па рашэнні прэзідэнта, што ставіць такую далікатную і адказную справу ў залежнасць ад суб'ектывізму адной асобы, адмоўныя прыклады чаму ўжо маюцца. Таму неабходна, на маю думку, перадаць гэтыя функцыі Прэзідыуму Вярхоўнага Савета як калектыўнаму органу, падначаленаму ў сваю чаргу парламенту. Паколькі Беларусь — дзяржава, прэзідэнт і ўрад якой афіцыйна карыстаюцца рускай мовай, а сам «бацька» не раз публічна выказваў да беларускай мовы пагарду і непавагу, прапаную Артыкул № 96 Канстытуцыі сфармуляваць наступным чынам: «Прэзідэнтам можа быць абраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь не маладзейшы за 35 гадоў, які афіцыйна карыстаецца беларускай мовай, ведае і паважае гісторыю краіны, мае намер працаваць на яе суверэннае развіццё, не пазбаўлены выбарчых правоў».

Другой неадкладнай задачай для Беларусі з'яўляецца распрацоўка агульнай канцэпцыі жыццядзейнасці і развіцця Беларусі як самастойнай дзяржавы, яе ўваходжання ў Сусветную супольнасць нацый і зберажэння беларускай нацыі. Сучаснае жыццё беларускай дзяржавы без такой канцэпцыі нагадвае становішча карабля ў бязмежных марскіх прасторах, капітан якога не мае ўяўлення аб тым, куды плысці. Таму развальваецца еднасць народа, амаль ушчэнт разбураюцца асновы духоўнасці, бязмежна расце злачыннасць.

У заключэнне скажу, што тыя, хто хоча бачыць Бацькаўшчыну шчаслівай і незалежнай, не павінны сядзець склаўшы рукі, бо інакш нас «праглынуць» дужэйшыя суседзі. На каго ж тады будзем скардзіцца?

**А.САЛАМОНАЎ,**
**прафесар.**
















# І смех і грэх

## Іранічнае

Радое ДАМАНАВІЧ

### Усё ў адпаведнасці з умовамі

У нас усё наадварот! Мы пачынаем адтуль, дзе іншыя народы заканчваюць. А як толькі нехта зробіць закід, баронімся:

— Гэтак робяць французы, так і ў англічан, так ва ўсім цывілізаваным свеце.

Што ж, у свеце можа быць і так, але часта, вельмі часта, у нас гэтаксама быць можа з той простай прычыны, што мы павінны б рабіць ад пачатку, а не ад канчатку.

Вось адна рэч, якая характарызуе нашу нервозную паспешлівасць.

Два гады таму, здаецца, у парламенце абмяркоўваўся закон пра чыноўнікаў.

Калі пайшла размова пра тое, колькі гадоў павінен праслужыць чыноўнік, каб атрымаць права на пенсію, узяў слова адзін спецыяліст, прамаўляў доўга і сур'ёзна, а пад канец, матывуючы свае меркаванні, прывёў статыстычныя звесткі, як гэтая справа вырашаецца ў Англіі, Францыі, Германіі ды ў іншых цывілізаваных краінах. «Вось як там, шаноўныя спадары. А калі так там, у разумным свеце, чаму ж не можа быць гэтаксама і ў нас?»

Ну, прамова гэтым была завершана. І пэўна ж, высокі сход не мог не прыняць пераканаўчых доказаў. Хто б асмеліўся не згадзіцца, выскачыць, абвяргаць статыстыку ці дудукаць што-небудзь накшталт:

«Яно сапраўды, у Англіі так, у Францыі так, у Германіі так, але, на жаль, у нас гэта немагчыма, хоць я і давяраю статыстычным звесткам».

Між тым, напрыклад, у Германіі чыноўнік служыць сорак гадоў. Ды ўмовы, у якіх ён служыць, лад краіны, плату ягонаю, тэмперамент і ўсё астатняе спецыяліст, які пераконваў статыстыкай, не ўлічваў.

## Пачутае «У Лявона»

### Мала рэчаў годных

«Каб ты быў добрым мужам, — папракае сталая наведвальніца шынка свайго сужонца, — то ты б купляў мне новыя сукенкі, прыгожыя блузкі.

— Я і ёсць самы лепшы муж, — адказвае той. — А што не купляю табе гэтых анучаў — праўду кажучы, мала ёсць на свеце рэчаў, якія годныя цябе, дарагая.

### Нерухомасць

Бывалец шынка «У Лявона» чытае газету ды раптам звяртаецца да дзяўчыны з-за суседняга століка:

— Лёля, ты адрамантавала сваю машыну?

— Не, — адказвае тая, — я яе ў вёску загнала, хай там стаіць.

— То, пэўна, гэтая абвестка дзеля цябе: «Малады, прыстойны мужчына пазнаёміцца з дзяўчынай, уладальніцай нерухомасці».

### Шчупак на бярэзіне

Рыбакі, што забеглі ў шынок пагрэцца, сядзяць каля стойкі бара і хваляцца сваімі рыбацкімі прыгодамі:

— От летась я злавіў шчупака — паўпуда важыў...

— Гэта што, вось мне трапіўся адзін — два пуды.

— І дзе ты злавіў?

— На Бярэзіне.

— Нехта ж яго туды зацягнуў, — здзіўляецца дзядок, што сядзеў побач.

### Сом у шапцы

— Што ні кажы, а самыя большыя самы ў нас на Прыпяці — не падняць аднаму...

— А вось у мяне быў выпадак. Злавіў я ў Дзвіне вялізнага сома. А тут, як на бяду, рыбнагляд. Куды мне падзець сома, — думаю...

— Дык ты яго ў шапку — і схаваў, — падказвае сябру такі ж самы аматар пахваліцца.

### Могуць аштрафаваць

Выпадковы наведвальнік афіцыянтцы шынка:

— Прыміце заказ і абслужыце мяне, калі ласка, хутчэй...

— Заказныя стравы ў нас гатуюцца не скора...

— Мне толькі сто грамаў і квасу.

— І куды, паночку, Вы так спяшаецеся?

— Я паставіў машыну ў забароненым месцы — могуць аштрафаваць.

### Рабі дабро другому

Госць шынка, замовіўшы сабе чарку акавіты, разважае ўслых:

— Мне не можна піць, але я п'ю, бо мушу знішчаць гэтае зло, прызначанае іншым.

Ягоны сусед перахоплівае пададзеную чарку і выпівае.

— Што Вы сабе дазваляеце, — абураецца «філосаф».

— Я таксама альтруіст, — адказвае сусед.

## Пародыі

Міхась СКОБЛА

### Трамвайная паэзія

*Разыдземся не караблямі, а трамваямі,*
*Патарахцім у розныя бакі.*
А.Тулупава.

Ну, як, скажы, да гэтых пор трывалі мы?
Ты быў заўсёды нейкі не такі.
Мы тарахцім па горадзе трамваямі,
Заўсёды, праўда, ў розныя бакі.

Паэтам што — жывуць сабе на Лесбасе,
Адпачываюць летам у Ляўках.
Не ездзяць ні ў трамваі, ні ў тралейбусе —
І застаюцца песняй у вяках!

А мы, нібы рамізнікі даўнейшыя,
Вязём рамесны і астатні люд,
Што ў тарахценне паказкі дамешвае,
Бо што ні пасажыр, то — слоdisplayаблуд.

На канцавым прыпынку станем поруч мы.
Ты толькі ўз'едзеш на мае пуці,
Як нейкі злыдзень таргане за поручні —
Маўляў, давай, Анэля, тарахці.

Няхай жыве паэзія трамвайная,
Што ўмее захаваць лірычны стыль!
Як два педалі, простая і файная,
Надзейная, бы рэйкавы кастыль.

Георгій ЮРЧАНКА

### Шаша на месяц

*Ад Мінска і да Гродна*
*Шаша — як паясок...*
*..............................*
*А тваё белыя калені*
*Цалуе месяц малады.*
Сяргей Чыгрын.

Мне радасць гулка сэрца поўніць
Не дзень, не два — трыццаты год,
Бо пралягла шаша на поўнач,
На поўдзень, захад і на ўсход.

Нікольки, верце, не раўную,
Што ля Байкоў і Едначоў
Вядзе шаша праз Дзераўную
Амаль да самых Махначоў.

І тым не менш сумую зноўку,
І мляўкі цяжар на душы,
Што не лягла шаша ў Сасноўку
І ў Касцяні няма шашы.

Шашу на месяц класці мрою,
Пакуль у целе сіл стае,
Каб ён пакінуў у спакоі
Калені пудкія твае.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 3882

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3999 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 18.09.1995 г. у 15 гадзін.